№ 35 (824) 18 верасня 2013
www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Дэвальвацыя набліжаецца



Эканамічныя паказчыкі сігналізуюць аб небяспецы. Старонка 5.

## Незаўважны Андрэйчанка

Рэпартаж з радзімы кіраўніка парламента. Старонка 6.

# Ачарняюць

Беларускія ўлады ўзнагароджаныя Антынобелеўскай прэміяй. **Старонкі 3, 15.**




**Многія рэчы, да якіх беларусы прыцярпеліся, людзьмі з іншых краін успрымаюцца як верх абсурду.**





## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Эксперты ААН: хімічная атака ў Сірыі была

На ракетах з нервова-паралітычным газам былі надпісы на кірыліцы.



Эксперты ААН склалі даклад па выніках расследавання «хімічнай атакі» пад Дамаскам 21 жніўня. Грамадскасці ўдалося пабачыць толькі першую яго старонку, аднак пабачанае дазваляе з вялікай доляй імавернасці сказаць пра змест дакумента.

У ім пацвярджаецца, што знойдзеныя «пераканаўчыя доказы» выкарыстання баявога атрутнага газу зарын. Паводле дадзеных экспертаў, смертаносныя зарады былі дастаўлены ракетамі класа «зямля — зямля».

На фрагментах некаторых выкарыстаных ракет ёсць надпісы на кірыліцы, распавяла крыніца тэлеканала CNN, спасылаючыся на даклад.

Эксперты ААН апыталі больш за 50 відавочцаў і медыкаў, вывучылі сімптомы, з якімі пакутавалі і памiралі пацярпелыя, сабралі ўзоры валасоў, мачы і крыві. Яны правялі агляд будынкаў і ваеннай амуніцыі і ўзялі 30 пробаў навакольнага асяроддзя.

Паводле звестак экспертаў, «сабраныя пробы дэманструюць ясныя і пераканаўчыя доказы таго, што ракеты класа «зямля — зямля», якія змяшчаюць газ нервова-паралітычнага дзеяння зарын, былі выкарыстаныя ў раёне Гута пад Дамаскам... Мы прыйшлі да высновы, што хімічная зброя была выкарыстана... супраць мірных людзей, у тым ліку дзяцей, у адносна вялікіх маштабах», — цытуе Асашыэйтэд прэс першую старонку даклада.

Адказныя за атаку мелі ў сваім распараджэнні не менш за 350 літраў зарыну. Даклад інспектараў таксама апісвае «траекторыі ракет», якія ўзарваліся ў прыгарадах Дамаска — прынамсі, дзве траекторыі ўдалося з вялікай доляй імавернасці вызначыць па характары разбурэнняў і варонках у месцы іх падзення.

Усяго інспектары пабывалі на месцы падзення пяці ракет з зарынам. Былі ідэнтыфікаваныя 140-міліметровыя снарады ад сістэмы залпавага агню БМ-14 і 330-міліметровыя некіраваныя рэактыўныя снарады. Першыя раней былі на ўзбраенні ў сірыйскай арміі, ёсць мадыфікацыя снарадаў да іх з хімічным зарадам.

Эксперты знайшлі сляды зарыну на сабраных фрагментах гэтых ракет.

Нагадаем, што ў сферу кампетэнцыі інспектараў ААН уваходзіў доказ або абвяржэнне самога факта прымянення баявых атрутных рэчываў. Хто стаяў за атакай, інспектары сказаць не ўпаўнаважаныя.

Аднак эксперты ў сваім дакладзе прыходзяць да высновы, што за атакай стаялі прафесіяналы. Ракеты былі выпушчаныя ў часе паміж 2.00 і 5.00 ночы. У гэтым прамежку вецер мінімальны, тэмпература паветра апускаецца, і ў выніку гэтага ўзнікаюць найбольшыя шанцы, што атрутныя газы будуць сцяліцца па зямлі. «Ужыванне хімічнай зброі ў такіх метэаралагічных умовах павялічвае яе патэнцыйны эфект, бо цяжкія газы збіраюцца каля зямлі, пранікаюць у ніжнія ўзроўні будынкаў, дзе знайшлі прытулак людзі», — гаворыцца ў дакладзе.

Эксперты таксама прыйшлі да высновы, што якасць зарыну была прамысловай, нашмат лепшай, чым той, які ўжываўся Іракам у часе ірана-іракскай вайны або пры тэракце ў такійскім метро ў сярэдзіне 90-х.

ЗША, Вялікабрытанія і Францыя неўзабаве пасля паведамлення аб тым, што здарылася, заявілі, што за хімічнай атакай стаялі сірыйскія ўрадавыя войскі, а паўстанцы такой зброі не маюць. У сваю чаргу, Дамаск і Масква абвінавацілі ў выкарыстанні баявых атрутных рэчываў апазіцыю. Сірыйскія ўлады адмаўляюць сваё дачыненне да інцыдэнту.

Як можна меркаваць, даклад прыводзіць да высновы, што ўсё ж за цяжкім злачынствам стаялі сілы сірыйскага дыктатара Башара Асада.

Высновы інспектараў ААН могуць дыскрэдытаваць пазіцыі Расіі, якая да апошняга бараніла Асада і пастаўляла яму зброю. Цяжка ўявіць сабе, каб хтосьці іншы, а не ўрадавыя войскі, меў доступ да такіх аб'ёмаў зарыну.

Пан Гі Мун, азнаёміўшыся з дакладам, нагадаў, што любое ўжыванне хімічнай зброі — гэта злачынства.

**Мікола Бугай**



Амерыканскі часопіс «Тайм» апублікаваў цыкл жахлівых фотаў з Сірыі. Фатограф зняў, як партызаны, звязаныя з «Аль-Каідай», адрэзалі галаву чатыром чалавекам. Натоўп вітаў экзэкуцыю воплескамі і радаснымі крыкамі.

Фатограф прызнае, што яму было млосна. Ён палічыў, што нават калі стане пратэставаць, гэта не спыніць пакарання, але можа выклікаць небяспеку для яго самога.

Свет ніяк не можа спыніць гэтае варварства. У Сірыі ўтварылася патавая сітуацыя, калі ні рэжым Асада, ні паўстанцы не могуць перамагчы.

### Апытанка на nn.by

**Ці Вы падтрымліваеце ўмяшанне ЗША ў Сірыі?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 502 | 35% |
| Не | 639 | 45% |
| Цяжка разабрацца | 276 | 19% |

Прагаласавала 1417 чалавек.

### Сціісла

**Заробкі чыноўнікаў за месяц выраслі на 43%**

У ліпені сярэдні заробак у сферы дзяржаўнага кіравання склаў $860, а яшчэ ў чэрвені не дацягваў і да $610. Рост заробкаў звязваюць са скарачэннем колькасці чыноўнікаў. Астатнім, адпаведна, паднялі заробкі на вызваленыя грошы.

**Міліцыянты будуць вучыць англійскую 8 гадзін на тыдзень**

Вызначаныя 500 супрацоўнікаў мінскай міліцыі з базавымі ведамі англійскай мовы, якія будуць рыхтавацца да чэмпіянату свету па хакеі ў надзвычайным лінгвістычным рэжыме. Заняткі будуць праходзіць двойчы на тыдзень па 4 гадзіны.

**Алеся Пушкіна аштрафавалі за самагонаварэнне**

Тры чалавекі, якія атрымалі апёкі, калі мастак Алесь Пушкін гатаваў традыцыйны крупнік падчас святкавання Купалля, не маюць да яго прэтэнзій. Крымінальная справа, па якой Пушкін мог атрымаць два гады «хіміі», не заводзілася. Суд абмежаваўся штрафам за самагонаварэнне.

**Станцыю «Малінаўка» адкрыюць толькі ў маі 2014**

Старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька абяцаў, што станцыя метро запрацуе ў лістападзе 2013, аднак будаўнікі катастрафічна адстаюць ад графіка. Аказалася, што ў месцы пракладкі тунэля прарвала падземную раку.

**На занятках падарвалася трацілавая шашка**

Няшчасны выпадак адбыўся на занятках па ваенна-інжынернай падрыхтоўцы пад Мінскам. Пяць курсантаў былі параненыя, а падпалкоўнік Барыс Лістапад, які меў 20-гадовы досвед працы з выбуховымі матэрыяламі, загінуў. Заведзеная крымінальная справа.

**ЯМ, ЮУ, АЗ**

### Рэкамендуем

## Шведы паставілі ў Лідзе спектакль з удзелам сірот

Чытайце на nn.by.

### Самае чытанае на nn.by за 11-17 верасня

1 Студэнт забіў няверную жонку і яе каханка з асаблівай жорсткасцю
2 Жлобін рыхтуецца да Дажынак: і смех і грэх
3 Што здарылася са сцягам на плошчы Дзяржаўнага сцяга?
4 Фатограф зняў публічнае пакаранне смерцю сірыйскімі партызанамі
5 Лукашэнка: Мы з Азаранкай разам пачыналі ў тэніс гуляць. Яна пацаначкай была
6 Маці асуджанага да расстрэлу: Хачу выратаваць сына ад смерці
7 Міліцыя шукае трох хлопцаў, якія збілі падлетка ў парку Горкага
8 Група захопу ў Мінску штурмавала кватэру меркаванага бандыта
9 Абед у сталоўцы Нацбанка каштуе 10 тыс. рублёў?
10 Моўныя школы Мінска вядуць набор на «курсы палякаў»

# «Беларусь стала сінонімам абсурду»

Прысуджэнне Аляксандру Лукашэнку Антынобелеўскай прэміі (**старонка 15**) выявіла цікавы момант. Многія рэчы, да якіх беларусы прыцярпеліся, людзьмі з іншых краін успрымаюцца як верх абсурду.

Нагадаем, што Шнобелеўская прэмія трапіла ў Беларусь за затрыманні людзей, якія апладзіравалі на вуліцах, у тым ліку за штраф аднарукаму чалавеку ў Гродне. Для людзей у Берліне, Бангалоры ці Рыа-дэ-Жанэйра гэта космас: як можна людзей арыштоўваць за тое, што яны выказваюць сваё меркаванне на вуліцах?

Некаторыя людзі ў Беларусі думаюць, што нашу краіну «ачарняюць». А тым часам з замежжа многія нашы рэаліі — ад «бітвы за ўраджай» пад кантролем прэзідэнта ды тэлебачання да грошай са шматлікімі нулямі — падаюцца нонсэнсам. Адзін мой знаёмы замежнік ніяк не мог зразумець, чаму перад прыездам прэзідэнта ў гарадку, дзе ён быў у гасцях, фарбавалі фасады і агароджы. «Гэта за межамі розуму», — паўтараў ён.

Гісторык і журналіст Дзмітры Гурневіч працяглы час жыве і працуе ў Польшчы. «З сумам трэба сказаць, што, напрыклад, у Польшчы, словы «Беларусь» стала наўпрост сінонімам абсурдаў. Калі польскі палітык хоча пакрытыкаваць апанента, то кажа, што яго ідэя «як у Беларусі».

«Адзін мой польскі сябар паехаў неяк на Новы год у Беларусь. Пасля вяртання ён у шоку распавядаў, як яны ішлі па праспекце і іх групу... рассёк на часткі спецназ. Маўляў, зашмат ішло ў натоўпе, каб чаго не выйшла, — расказвае Гурневіч. — Дарэчы, многія мае знаёмыя баяцца ездзіць у Беларусь, бо лічаць, што ў нас фактычна кожнага можна арыштаваць без прычыны, абвінаваціўшы ў лаянцы ці супраціве міліцыі».

«Затое ўсе хваляць чысціню ў Мінску і прыгажосць беларускіх дзяўчат», — дадае Гурневіч.

**Кірыла Хілько**



АНТОН МАТОЛЬКА

## Топ-4 беларускіх абсурдаў

Па выніках **апытання замежнікаў**.

**Мова прэзідэнта**

Лукашэнка не размаўляе на нацыянальнай мове, хоць увесь час кажа пра незалежнасць. За час свайго прэзідэнцтва па-беларуску ён прамаўляў лічаныя разы.

**Выбары ў кнізе рэкордаў Гінэса**

У 2010 годзе 7 з 9 кандыдатаў у прэзідэнты аказаліся за кратамі. А аднаго з іх, Някляева, да непрытомнасці збілі «асобы ў цывільным» яшчэ да таго, як закрыліся выбарчыя ўчасткі.

**Зімбабвійскі сіндром**

Нягледзячы на шматлікія дэнамінацыі, цэны ў Беларусі вылічваюцца ў дзясятках і сотнях тысяч. Хлеб каштуе 7000 рублёў, а купюры 50 і 100 рублёў часта валяюцца і ніхто іх не падымае: настолькі мала яны вартыя.

Ні ў адной іншай краіне Еўропы за апошнія 10 гадоў не было такой інфляцыйнай эканомікі.

**Платная бясплатнасць**

У краіне замацавана бясплатнасць вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, але за бясплатнае навучанне чамусьці трэба адпрацаваць два гады. Калі не адпрацуеш — калі ласка, заплаці затрачанае на тваю вучобу.

Немцы гэтага не разумеюць: адукацыя ж у вас бясплатная, фінансуецца з падаткаў грамадзян. Чаму па факце ў выпадку нежадання працаваць па размеркаванні адукацыю людзі аплочваюць двойчы?

# Што самае абсурднае ў Беларусі?

Да якіх абсурдаў мы прыцярпеліся і не заўважаем? Якія **найбольшыя маразмы** нашага жыцця? Такое пытанне мы задалі чытачам сайта. Вось якія адказы атрымалі.

Абсурд — прымусовая падпіска.
Прымусовыя суботнікі ды абавязковая прысутнасць па разнарадцы на розных мерапрыемствах — АБСУРД!
Прымусовыя працы «на карысць горада, раёна, калгаса» задарма — нонсэнс!!
Пратэкцыянізм прадуктаў, выробленых у сваім раёне (часцяком проста жахлівай г...янай якасці — хлеб, малочка, кілбасы — Валожынскі раён, асабліва — хлеб, проста часцяком есці немагчыма) перад прадуктамі з суседніх раёнаў ды іншых рэгіёнаў краіны — АБСУРД!!!

**STATiK**

Невялічкі абсурдзік сярод глабальнага абсурдызму — пасада ідэолага з асобным кабінетам у ЖЭСе райцэнтра. Я ажно апупеў быў.

**Ліхтар**

Прэзідэнт, які не гаворыць на нацыянальнай мове. Можна было б зразумець, калі б ён час ад часу гаварыў па-беларуску, але калі зусім не гаворыць... Любы чэх, ці нарвег, ці італьянец успрымае гэта як нейкі нонсэнс або сітуацыю акупацыі.
Прэзідэнт Беларусі не гаворыць па-беларуску. Ну абсурд.

**Іван**

Вільня і Варшава — далёкае замежжа, Петрапаўлаўск-Камчацкі — блізкае замежжа :)).

**Янка**

Тое, што людзі садзяць бульбу. Хоць эканамічна гэта не мае ніякага сэнсу. Плацяць за аранне канём ці трактарам і на бензін на даезд больш, чым пасля каштуе тая бульба.

**З раёна**

Абсурд — гэта амаль усё ў сённяшняй Беларусі.

**Юрась**

1. Фальсіфікацыя выбараў — маразм і злачынства.
2. Занядбанне беларускай мовы — маразм.

**Кнехт**

Помнікі Леніну ў кожным горадзе і бібліятэкі імя Леніна.

**Як-40**

Калі людзей збіваюць і штрафуюць за словы «Жыве Беларусь!»

**Polka**

Абсурд, гэта калі не магчыма ў кіёску купіць сімку для мабільнага, якую не трэба нідзе рэгістраваць і з якой можна адразу тэлефанаваць.
Абсурд — гэта калі з «Макдональдса», у якім у ЗША ядуць толькі найбяднейшыя, у Беларусі зроблены культ крутога жыцця па-амерыканску.

**Тыр тыр хлопчык**

Пятру Пракаповічу — Героя Беларусі, Алене Ланской — Народную артыстку Беларусі.

**Сумна і брыдка**

Вуліца Мяснікова (Мяснікяна) у цэнтры сталіцы. Названа ў гонар чалавека, які казаў прыкладна так у 1917 : «Ніякай Беларусі не існуе, ёсць Паўночна-Заходняя вобласць». І змагаўся на справе за недапушчэнне нават камуністычнае беларускасці!

**Isebreaker**

Хай мяне прабачаць каментатары ды іншыя грамадзяне, але самае абсурднае — гэта тое, што ўсе ўсё разумеюць і анічога не робяць.

**Руслан Верамей**

## Брэсцкія ідэолагі: «Грамадства страчвае традыцыйны расійскі патрыятызм»

У Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А. Пушкіна студэнтаў вучаць, што грамадства страчвае традыцыйны расійскі патрыятызм. Гэта сцвярджаецца ў дакуменце пад назвай «Светапоглядныя асновы беларускай дзяржавы», размешчаным на сайце ўніверсітэта ў рубрыцы «У дапамогу намеснікам дэканаў па выхаваўчай працы, куратарам вучэбных груп, навучэнцам» аддзела выхаваўчай працы з моладдзю.

«Падзеі апошняга часу пацвердзілі, што эканамічная дэзынтэграцыя, сацыяльная дыферэнцыяцыя грамадства, дэвальвацыя духоўных каштоўнасцяў аказалі негатыўны ўплыў на грамадскую свядомасць большасці сацыяльных і ўзроставых груп насельніцтва краіны, рэзка знізілі выхаваўчае ўздзеянне расійскай культуры, мастацтва і адукацыі як найважнейшых фактараў фарміравання патрыятызму. Стала ўсё больш заўважнай паступовая страта нашым грамадствам традыцыйнай расійскай патрыятычнай свядомасці», — з прыкрасцю гаворыцца ў дакуменце.

Насамрэч, змову чыноўнікаў па татальнай русіфікацыі беларусаў у гэтым абзацы знайсці складана. Вінаватая банальная лянота: вынікі нядоўгага пошуку ў інтэрнэце сведчаць, што тэкст быў слова ў слова скапіяваны з дзяржаўнай праграмы «Патрыятычнае выхаванне грамадзянаў Расійскай Федэрацыі на 2001–2005 гады».

Старшыня аддзела выхаваўчай працы Таццяна Кошык мяркуе, што памылку мог зрабіць метадыст, які складаў дакумент. «Гэтую паперу мы рыхтавалі да ўніверсітэцкай гадзіны інфармацыі.

Аднак складалі яе паводле матэрыялаў, якія нам даслалі з аддзела па ідэалогіі Віцебскага аблвыканкама.

Да таго ж гэты дакумент вельмі стары, створаны ці ў 2011, ці ў 2012 годзе», — сказала сп. Кошык.

Відавочна, што ідэолагі не чыталі дакумент нават падчас яго напісання і наўрад ці звярталіся да яго ўвогуле, бо за два гады не заўважылі ў ім памылкі і нават не замянілі слова «расійскі» на «беларускі».

Варта адзначыць, што дакумент утрымлівае шмат цікавых момантаў і акрамя няўдалай «капіпасты». Напрыклад, 8 з 12 цытатаў, прыведзеных у дакументе, узятыя з прамоваў Лукашэнкі. Толькі чатыры астатнія належаць іншым аўтарам.

**КХ**

## Дзясяткі тысячаў супраць $100 за выезд

Электронную петыцыю супраць увядзення выязнога мыта для беларусаў падпісалі ўжо 23 тысячы чалавек. Яе стварылі на адмысловым інтэрнэт-рэсурсе change.org 6 верасня.

У петыцыі сцвярджаецца, што прапанова Лукашэнкі браць па $100 з тых, хто выязджае за мяжу на закупы, парушае Канстытуцыю Беларусі і шэраг міжнародных канвенцый, ратыфікаваных краінай.

Подпісы супраць «$100 за выезд» будуць накіраваныя Аляксандру Лукашэнку, Міхаілу Мясніковічу і ў абедзве палаты нацыянальнага сходу.

Некалькі тыдняў таму Лукашэнка прапанаваў увесці такі збор з тых, хто выязджае з Беларусі на закупы ў суседнія краіны. Неўзабаве на ініцыятыву адрэагавалі чыноўнікі. Віцэ-прэм'ер Пятро Пракаповіч паведаміў, што пытанне ўвядзення пошліны будзе разгледжана цягам бліжэйшага месяца-паўтара.

А старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька заявіў, што пошліна «прадыктаваная інтарэсамі большасці», а грошы ад яе пойдуць на развіццё грамадскага транспарту.

**КХ**

# Салідарных з загінулым ў СІЗА аштрафавалі на 2 мільёны

За спробу **зладзіць хвіліну маўчання** затрымалі два дзясяткі чалавек.

Затрыманы за кіраванне аўтамабілем без правоў Ігар Пціцкін заплаціў за сваё парушэнне жыццём. Родныя памерлага хлопца і неабыякавыя грамадзяне за спробу ўшанаваць яго памяць мусяць заплаціць па 500 тысяч штрафу.

16 верасня ў Цэнтральным судзе Мінска адбыўся пяць працэсаў над роднымі і сябрамі Ігара Пціцкіна, якіх затрымалі за два дні да таго. Людзі збіраліся адзначыць 40 дзён па хлопцу, які загінуў на «Валадарцы», — зладзіць хвіліну маўчання і пакласці кветкі ля СІЗА.

Але да будынка СІЗА родныя і сябры Пціцкіна нават не дайшлі: міліцыянты ў цывільным затрымалі іх яшчэ на скрыжаванні Нямігі і Гарадскога Вала. Восем чалавек, сярод якіх было тры журналісты і цяжарная на апошнім месяцы сястра Пціцкіна, запхнулі ў мікрааўтобус.

«25 гадоў жыла і не ведала, што такое дыктатура», — абуралася сястра Пціцкіна, Ірына Мірановіч, і энергічна патрабавала, каб ёй патлумачылі прычыны затрымання. Многія з тых, хто трапіў у гэты дзень у РУУС, увогуле не разумелі, што адбываецца. «Куды паедзем? На Акрэсціна? Несанкцыянаваны мітынг? Што за гэта бывае? Гэта адміністратыўная справа?» — пыталіся хлопцы. У аднаго з іх, Ігара Кавалёва, дарэчы, быў дзень народзінаў. Асабіста ён загінулага Пціцкіна нават не ведаў — проста не мог застацца абыякавым, калі прачытаў шакуючую гісторыю.


ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**Ірына Мірановіч, сястра загінулага Ігара Пціцкіна, народзіць з дня на дзень.**



**Салідарных мінчукоў затрымлівалі людзі ў цывільным і закідвалі ў сіні «грамадзянскі» бус.**

У затрыманых перапісалі пашпартныя дадзеныя, вывелі на калідор і загадалі стаць тварам да сценкі. Цяжарнай Ірыне, праўда, прапанавалі крэсла. Пачалі вадзіць на дактыласкапію, дазволілі павярнуцца. Журналістаў праз тры гадзіны адпусцілі. Ірыне Мірановіч далі позву ў суд і таксама адпусцілі праз некаторы час. Астатніх павезлі на Акрэсціна. Як потым распавялі затрыманыя, на вячэру яны не трапілі, таму нават папіць вады ім далі толькі на наступны дзень.

Яшчэ 13 затрыманых — у тым ліку маці Ігара Пціцкіна і праваабаронцу Андрэя Бандарэнку — прывезлі ў Маскоўскі РУУС. На іх склалі пратаколы аб удзеле ў несанкцыянаванай акцыі і адпусцілі, позвы ў суд не давалі.

Ігару Кавалёву, Аляксандру Гаўрышу і Віктару Катляніку прысудзілі штрафы па 500 тысяч рублёў. Стрыечнаму брату Пціцкіна Сяргею Яўменаву — на 100 тысяч болей: ён адмаўляў, што нёс кветкі, казаў, што трымаў у руках толькі парасон.

Ірына Мірановіч атрымала папярэджанне. Сястра загінулага Ігара збіраецца абскарджваць гэтае рашэнне. «Я проста ішла па вуліцы з кветкамі — мяне затрымалі і абвінавацілі ў пікетаванні, — кажа яна. — Атрымліваецца, кожны, хто ідзе з кветкамі па вуліцы, ладзіць пікет? Чаму я не магу пакласці кветкі ля месца, дзе прайшлі апошнія хвіліны жыцця майго брата? Людзі ж неслі кветкі да метро пасля выбуху».

**Забаранілі нават марш супраць абортаў**

Улады настолькі імкнуцца пазбегнуць любых масавых акцый, што забаранілі нават марш супраць абортаў. Шэсце мусіла адбыцца 21 верасня. На марш было нават атрымана дабраславенне мітрапаліта Філарэта і Тадэвуша Кандрусевіча. Аднак усё марна — хрысціянам давядзецца задаволіцца службай у касцёле.

21-гадовы Ігар Пціцкін мусіў адбыць тры месяцы арышту за тое, што паўторна кіраваў аўтамабілем, не маючы правоў. У СІЗА на вуліцы Валадарскага хлопца змясцілі 30 ліпеня, а 4 жніўня Ігар памёр. На яго целе зафіксаваны шматлікія пашкоджанні. Праваабаронца Андрэй Бандарэнка са спасылкай на крыніцы, блізкія да адміністрацыі СІЗА №1, расказаў пра магчымыя прычыны смерці Ігара Пціцкіна: «Ён, магчыма, быў збіты так званым рэзервам — групай для здушэння беспарадкаў. Хлопец адчуў сябе кепска і доўгі час прасіў выклікаць доктара, аднак яму адмаўлялі. Ігара падтрымалі сукамернікі, быў выкліканы нарад. Хлопца вывелі з камеры і працягвалі збіваць ужо ў калідоры. Хутчэй за ўсё, гэта і стала прычынай смерці».

Афіцыйная ж версія пакуль не агучаная: па факту смерці Пціцкіна яшчэ ідуць экспертызы.

«Чаму пратэстоўцам далі штрафы, а не суткі? Магчыма, улады баяцца, што гэтая справа стане прычынай значна большага абурэння грамадскасці, чым палітычныя працэсы, і прыцягне ўвагу людзей, якія ніколі не цікавіліся палітыкай», тлумачыць прысуды ўдзельнікам акцыі Андрэй Бандарэнка.

## «25 гадоў жыла і не ведала, што такое дыктатура»

Так ці інакш, але ўшанаваць памяць Ігара Пціцкіна прыйшлі неабыякавыя грамадзяне, якія раней былі далёкімі ад палітыкі і да мінулай суботы не ведалі, што такое Акрэсціна, затрыманні за прагулку з кветкамі ды судовыя працэсы па-беларуску.

**Ганна Бадзяка**

**Фотафакт**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**125 чалавек з Мінскай цэнтральнай і Мінскай рэгіянальнай мытняў, а таксама мытні «Мінск- 2», прысягнулі на вернасць Беларусі і яе народу на плошчы Дзяржаўнага сцяга ў сталіцы. Тыдзень таму на тым самым месцы прымалі прысягу пamежнікі.**

# Ксяндзу Лазару пагражае да 15 гадоў турмы

Яму ставяць у віну **перадачу грошай «шпіёну»**.

Ксяндзу Уладзіславу Лазару ставіцца ў віну перадача грошай і матэрыяльных каштоўнасцяў чалавеку, які абвінавачваецца ў шпіянажы на карысць іншай дзяржавы.

Як гаворыцца ў паведамленні Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Беларусі, ксёндз «сапраўды затрыманы органамі КДБ і знаходзіцца ў СІЗА КДБ у Мінску». Ён абвінавачваецца паводле п. 1 арт. 356 Крымінальнага кодэкса (здрада дзяржаве). Пакаранне па гэтым артыкуле прадугле-джвае пазбаўленне волі на тэрмін ад 7 да 15 гадоў. Крымінальная адказнасць Лазара вызначаецца як «садзейнічанне ў злачынстве».

Хутка апостальскаму нунцыю ў Беларусі арцыбіскупу Клаўдыа Гуджэроці будзе дадзена магчымасць асабістай сустрэчы з арыштаваным ксяндзом.

Уладзіслаў Лазар — грамадзянін Беларусі, вучыўся ў Гродзенскай семінарыі, затым у Польшчы. У красавіку гэтага года быў прызначаны адміністратарам з правамі пробашча парафіі Спаслання Духу Святога ў Барысаве. Раней служыў у Мар'інай Горцы і Рудзенску (Пухавіцкі раён Міншчыны).

**БелаПАН**

## Сцісла

**Мілінкевіч: «Макей — праеўрапейскі рэфарматар»**

«Для Макея важная незалежнасць Беларусі. Ён мае праеўрапейскае мысленне, мае досвед працы ў Еўропе, скончыў Дыпламатычную акадэмію ў Вене. Ён ведае і цэніць Еўропу. Макей — прагрэсіўны рэфарматар», — заявіў лідар «Руху за Свабоду» ў інтэрв'ю аўстрыйскім СМІ. На думку Мілінкевіча, у саміце Усходняга Партнёрства, які пройдзе ў лістападзе ў Вільні, возьме ўдзел менавіта міністр замежных спраў Уладзімір Макей.

**Літаратуразнаўчая кніга Бяляцкага «псуе імідж Беларусі»**

Да такой высновы прыйшла экспертная камісія, куды Ашмянская мытня накіравала зборнік эсэ і нарысаў «Асвечаныя Беларушчынай». 40 асобнікаў выдання былі канфіскаваныя ў праваабаронцы Тацяны Равякі на беларуска-літоўскай мяжы.

**Яроменка і Парфянкова завочна асудзілі на 5 сутак**

Маладафронтаўцаў, асуджаных за Плошчу-2010, абвінавацілі ў парушэнні правілаў прэвентыўнага нагляду. Іх запрасілі прыйсці ў Першамайскае РУУС, дзе актывісты даведаліся, што ў той жа дзень іх асудзілі без іх удзелу. Рашэнне вынес суддзя Гарбатоўскі. Арышт актывісты пачалі адбываць у той жа дзень.

**ЛМ**

# Замежныя актывы банкаўскай сістэмы скаціліся на дэвальвацыйны ўзровень

Ад $6,5 мільярда за год засталося **менш за $1 мільярд**.

Чыстыя замежныя актывы банкаўскай сістэмы лічацца адным з найважнейшых індыкатараў здароўя беларускага фінансавага рынку. Гэта розніца паміж усімі «багаццямі» банкаў — золатам, замежнымі дэпазітамі, каштоўнымі паперамі — і абавязальніцтвамі перад замежжам.

У Беларусі апошніх гадоў праблемы ўзнікаюць, як толькі ўзровень гэтых актываў падае ніжэй за $2 мільярды.

Упершыню гэта здарылася ў пачатку 2009 і адлюстравалася ў 20%-най дэвальвацыі рубля. Прычым эканоміку гайдала ўвесь год.

На мяжы $2 мільярдаў чыстыя замежныя актывы банкаўскай сістэмы вагаліся і летам 2010, калі ў дзяржавы часам бракавала грошай нават на тое, каб расплаціцца за газ.

Крутое піке чакала эканоміку ў 2011. Актывы скаціліся за «неабходны паказчык» яшчэ за два месяцы да прэзідэнцкіх выбараў. У маі 2011 яны складалі катастрафічныя —$2,5 мільярда.

І вось цяпер індыкатар сігналізуе пра небяспеку чарговага абвалу. Праблемы пачаліся яшчэ год таму, аднак падушка бяспекі дазваляла не заўважаць іх. Апошнія месяцы актывы скарачаюцца на $500—600 мільёнаў штомесяц. Калі сітуацыя не зменіцца, то яны дасягнуць нуля праз месяц-два.

**Плаўная дэвальвацыя**

Даляр ужо дарос да 9020 рублёў, а еўра — да 12 040 рублёў. Да такога ўзроўню яны яшчэ не падымаліся. Аднак курсы продажу ў банках яшчэ вышэйшыя, прыкладна на 50 рублёў для кожнай валюты.




Нацбанк спрабуе ўплываць на рынак, аднак гэта не вырашае праблемы, а адтэрміноўвае іх. «Час, які Нацбанк можа «ўпірацца», абмежаваны некалькімі месяцамі, — канстатуе эканаміст Сяргей Чалы. — Адзіная надзея Нацбанка ў тым, што паніка пройдзе. Аднак велічыня дэвальвацыйных чаканняў такая, што нават стаўка па дэпазітах памерам 35—40% не ратуе сітуацыю».

Што чакае беларускую эканоміку ў найбліжэйшай перспектыве? «Ідзе гульня, у каго здадуць нервы — у Нацбанка ці ў людзей. Усё насельніцтва фактычна гуляе супраць свайго Нацбанка, — тлумачыць Чалы. — Насамрэч, даляр павінен каштаваць істотна вышэй, чым цяпер». На яго думку, запланаваным на наступны год курсам 9500 рублёў за даляр не абысціся.

**Ягор Марціновіч**

## Замест 9 мільёнаў тон збожжа сабралі толькі 7 мільёнаў

Правал вырашылі **не заўважаць**.

Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання апублікавала звесткі пра ўраджай гэтага года. Яны несуцяшальныя. Па стане на канец жніўня сабралі ўсяго 6,9 мільёна тон збожжа. Сярэдняя ўраджайнасць склала 31,5 цэнтнера з гектара. Гэта на 6,1 ц, або амаль на 18%, ніжэй, чым летась. У выніку перакрэслены план збору 9 мільёнаў тон, пра які трубілі цэлую вясну і лета.

Прычына тут звычайная: сельская гаспадарка залежыць ад прыродных умоваў, а яны сёлета былі неспрыяльныя. Доўгая халодная вясна змянілася паводкамі, а пасля быў даволі няўдалы чэрвень.

У гэтым не было б нічога незвычайнага, калі б не той факт, што збор збожжа ў Беларусі — гэта не проста эканамічны паказчык, а палітычны момант. Любы прырост тлумачыцца поспехам беларускай эканамічнай мадэлі, а любое падзенне не афішуецца або змякчаецца прыпіскамі.

Так было і сёлета. Пакуль жніво ішло па плане, сюжэты пра яго штодня з'яўляліся ў эфіры дзяржаўных тэлеканалаў. Калі вынік аказаўся кепскім, пра яго вырашылі прамаўчаць.

Але без хлеба не будзем. Сабранага збожжа хопіць і для людзей, і на камбікорм. А пшаніцу цвёрдых гатункаў краіна закупляе ў Расіі ці Украіны, дзе, дарэчы, сёлета сабралі рэкордны ўраджай. Таму кошты на яе не павінны быць высокімі.

**Сяргей Гезгала**

**Беларускі ўраджай***

2007 — 7,2 мільёна тон
2008 — 9 мільёнаў тон
2009 — 8,5 мільёна тон
2010 — 7 мільёнаў тон
2011 — 8,3 мільёна тон
2012 — 9,2 мільёна тон
2013 — 6,9 мільёна тон**

* валавы збор збожжа, дадзеныя Белстата
** падлікі на канец жніўня

## Сціcла

**Паліва даражэйшае за даляр**

Бензін і дызельнае паліва даражэюць другі раз за два тыдні. Цэны ў Беларусі падняліся вышэй за $1 за літр — 9200 рублёў за салярку і 9100 рублёў за АІ-95. Аднак у суседняй Расіі бензін усё адно даражэйшы — на 1-2%.

**Рому і тэкілы паболее**

Сёлетняя квота на вытворчасць тэкілы ў Беларусі павялічана на 60% (да 8 тысяч дал), рому — на 50% (да 15 тысяч дал). Трохі вырасце і вытворчасць каньяку, вінаў, затое кальвадосу паменее.

**Беларусы зробяць аналаг «Снікерса» і «Марса»**

Шакаладныя батончыкі з нугі будзе выпускаць кандытарская фабрыка «Спартак». У продажы яны з'явяцца да сёлетніх «Дажынак».

**ЯМ**

# «Абмяркоўваем з Андрэйчанкам палітыку. Але што ад нас зменіцца?»

Рэпартаж з радзімы старшыні **палаты прадстаўнікоў**.



Уладзімір Андрэйчанка.



У бацькоўскую хату палітык прыязджае, каб пакасіць траву.

Старшыня палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка ўваходзіць у пяцёрку самых высокіх беларускіх чыноўнікаў. Па ўплывовасці сваёй пасады ён фармальна саступае толькі Аляксандру Лукашэнку і прэм'ер-міністру Міхаілу Мясніковічу ды знаходзіцца на адным узроўні з Анатолем Рубінавым, які ўзначальвае савет рэспублікі. Але гэта чыстая фармальнасць. У рэальнасці, вага і магчымасці і сілавікоў, і гаспадарнікаў, і старшынь выканкамаў нашмат большыя. Значэнне ж «парламента» ў нашай краіне — сімвалічнае. Ён зацвярджае законы, ухваленыя ў прэзідэнцкай адміністрацыі.

Андрэйчанка добра адпавядае сваёй пасадзе: ён здолеў дасягнуць амаль поўнай незаўважнасці. У сёлетнім рэйтынгу самых уплывовых беларусаў, складзеным «НН» пры дапамозе экспертаў, Андрэйчанка заняў толькі 51-ю пазіцыю. Імя кіраўніка парламента ўзгадваецца ў навінах хіба што падчас яговых візітаў у экзатычныя краіны. В'етнам, Эфіопія, Камбоджа, Эквадор, Балівія — такому разнастайнаму набору падарожжаў пазайздросціць любы турыст.

Ні па адным з гарачых пытанняў Андрэйчанка не выказаў меркавання, адрознага ад «лініі партыі». А як яговыя землякі ставяцца да такой адсутнасці пазіцыі?

Карэспандэнты «НН» з'ездзілі на радзіму Андрэйчанкі, каб распытаць у землякоў пра яговы шлях да поспеху — ад агранома да партыйнага функцыянера, а пасля і кіраўніка парламента.

### Гістарычнае значэнне Лёзна

Вёска Мар'янава, у якой нарадзіўся палітык, знаходзіцца ў самым цэнтры Лёзненскага раёна. Яна такая маленькая, што на большасці сучасных картаў яе не знайсці.

Каб дабрацца, трэба праехаць маршрут, адваротны жыццёваму шляху Андрэйчанкі: Мінск — Віцебск — Лёзна — Мар'янава.

Па дарозе ад Віцебска да райцэнтра пачынаем адлічваць кіламетровыя знакі. 22, 23, 24... 17 чэрвеня 1994 гэтае месца ўвайшло ў гісторыю як месца няўдалага замаху на Аляксандра Лукашэнку. Па версіі яговага штаба, тут невядомыя стралялі ў «Мерсэдэс» з кандыдатам у прэзідэнты. Следчы эксперымент устанавіў, што стрэлы ў аўтамабіль у апісаных умовах былі немагчымыя.

У той час Уладзімір Андрэйчанка ўжо не працаваў у Лёзне, з якім былі звязаныя яго поспехі ў камсамоле і на партыйнай службе, а таксама першыя кіраўнічыя пасады. Ён пайшоў на павышэнне ў Віцебск, але адначасова быў «калегам» Лукашэнкі — дэпутатам ВС XII склікання.

У 1994 нанаабраны кіраўнік дзяржавы прызначыў Андрэйчанку старшынём Віцебскага аблвыканкама. На пасадзе ён партрымаўся 14 гадоў — рэкорд доўгажыхарства сярод кіраўнікоў абласцей.

**Стабільны заробак**

Статус дэпутата прымушае Андрэйчанку прадастаўляць перад выбарамі дэкларацыю аб даходах. У 2007, яшчэ ў статусе віцебскага губернатара, ён зарабіў за год 54 мільёны рублёў. Гэта ў эквіваленце $2100 за месяц. Праз чатыры гады дэпутацкі заробак Андрэйчанкі склаў 125 мільёнаў рублёў — гэта каля $2250 за месяц.

Сярод яговай маёмасці летась называліся кватэра ў Мінску, лецішча пад Віцебскам і гараж у Віцебску.

### Вымерлая вёска

Чым бліжэй да Мар'янава, тым дарога горшае. Сустрэчных аўто не відаць, усё нібы вымерла. Заязджаем у саму вёску — ні душы.

**Уладзімір Андрэйчанка**

нарадзіўся ў 1949 у вёсцы Мар'янава Лёзненскага раёна. Скончыў Лужаснянскі сельгастэхнікум (1968), Вялікалуцкі сельскагаспадарчы інстытут (1977), Мінскую вышэйшую партыйную школу (1988). Пасля службы ў войску працаваў аграномам. У 1972-1975 — інструктар у Лёзненскім райкаме камсамола, а пасля ў райкаме КПБ. У 1975-1978 — сакратар парткама саўгаса «Адаменка», у 1978-1981 — старшыня калгаса імя Данукалава Лёзненскага раёна. У 1981-1985 — начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі Лёзненскага райвыканкама, у 1985-1987 — старшыня райвыканкама. У 1987-1991 гадах — старшыня Верхнядзвінскага райсавета, першы сакратар Верхнядзвінскага райкама КПБ. У 1991-1994 — намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама па сельскай гаспадарцы, у 1994-2008 — старшыня Віцебскага аблвыканкама. З 2008 — старшыня палаты прадстаўнікоў.

На шчасце, на адным з агародаў бачым немаладога мужчыну і спыняем аўто на супрацьлеглым ад яго баку вуліцы. «Не падкажаце, як нам знайсці дом Уладзіміра Андрэйчанкі?» — «Дык вы ж каля яго і паставілі машыну!» — смяецца той.

**Капіяваная пераможная праграма**

У 2012, перад чарговымі выбарамі ў парламент, Андрэйчанку ў інтэрнэце паднялі на смех. Выбарчая праграма кавалкамі была скапіяваная… з яго ж праграмы, апублікаванай чатыры гады таму.

Ягонымі канкурэнтамі па Докшыцкім участку сталі спарынг-партнёры ад Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці, а таксама ЛДПБ. У выніку, ён перамог, атрымаўшы 87% галасоў.

Азіраемся — акуратная блакітная хатка без слядоў жыцця ў ёй.

Наш суразмоўца аказваецца добрым знаёмым Андрэйчанкі — разам гулялі малымі, разам хадзілі ў школу.

Колькі словаў ён можа расказаць і пра сям'ю сваіх суседзяў. Бацькі будучага чыноўніка працавалі ў мясцовым саўгасе. У гаспадарцы было два гусенічныя трактары. На адным з іх і працаваў Павел Андрэйчанка. Сусед дзівіцца з яго працаздольнасці: «Дзень і ноч працаваў!» Дарэчы, цяпер калгас узяла пад сваё шэфства Беларуская чыгунка.

Сярод жывых бацькоў Андрэйчанкі ўжо няма, не сустрэнеш тут і нікога са сваякоў. Вёска вымерла. За савецкім часам у Мар'янаве было 30 двароў. Цяпер сюды ўлетку прыязджаюць з суседніх Лёзна і Віцебска дачнікі. Наш суразмоўца — адзін з іх.

### «Трэба — і 100 грам вып'ем»

«Выдатнікам не быў. Сярэдні малец», — апісвае Андрэйчанку сусед.

«А як кавалер? Можа, першы на вёсцы?» — «Дык нас многа было. У іх пяць сыноў, у нас чатыры. А ў тых, праз дарогу — сямёра. Так што кавалераў хапала», — кажа сусед.

«А ён жа прыязджае сюды! — уключаецца ў гутарку жонка нашага суразмоўцы. — І нават косіць тут, я бачыла!»

Чыноўнік, які прыязджае за 300 кіламетраў у родную вёску, каб пакасіць траву, — на яе думку, самы пазітыўны вобраз, які можна намаляваць для карэспандэнтаў.

«А што яму? Дзедаву касу ўзяў — і пайшоў!» — дапаўняе муж.

«Калі прыязджае, сустракаецеся з ім?» — «Вядома ж. Як з чалавекам. Трэба — і сто грам вып'ем».

«А палітыку абмяркоўваеце?» — «А што ў яе лезці, у гэту палітыку? Ад нас жа нічога не зменіцца... Так што сустрэнемся, паразмаўляем з ім па-нашаму, па-вясковаму».

### Таямнічая сям'я

Ні ў адным са сваіх інтэрв'ю Андрэйчанка нічога не расказвае пра сям'ю. Нешматслоўны сусед у такой сітуацыі ледзь не адзіная крыніца інфармацыі.

Жонка палітыка была бухгалтаркай, узгадвае сусед. Дзеці? Уладзіслаў Андрэйчанка з 2007 узначальвае віцебскую філію мабільнага аператара МТС. Ён мае ў Мар'янаве лецішча. Лесвіца ад ідылістычнай двухпавярховай хаткі вядзе проста ў сажалку. На дагледжаным участку кідаюцца ў вочы смешныя кампазіцыі ў выглядзе жырафы і зебры, зробленыя з аўтамабільных пакрышак. Уладзіслаў прыязджае ў вёску часта, усё ж ад Віцебска ехаць недалёка.

Ці ёсць у яго дзеці, унукі кіраўніка парламента? Сусед робіць выгляд, што не ведае, хоць на ўчастку раскіданыя цацкі, напрыклад, ружовы грузавік.

Не расказвае ён нічога і пра Наталлю, малодшую дачку Уладзіміра Андрэйчанкі.

Ці добрым быў кіраўніком вобласці Андрэйчанка? «Нам падабаўся. Як сусед і як чалавек...» — падсумоўвае сваё ўражанне сябар дзяцінства палітыка.

### Выверaная пазіцыя

Гучных заяваў Андрэйчанка не робіць. Пасля праслухоўвання яго выступаў можна ўзгадаць хіба што дзве палітычна значныя пазіцыі спікера: апазіцыя — зло, а Еўрасаюз яшчэ пашкадуе аб санкцыях супраць Беларусі. Зрэшты, усур'ёз яговыя заявы і палітычныя амбіцыі ніхто не ўспрымае.

Даходзіць да кур'ёзаў. Канал СТВ час ад часу называе спікера не Уладзімірам, а Віктарам.

Можа, гэта і дапамагае яму быць непадалёк ад вяршыні ўлады вось ужо трэцяе дзесяцігоддзе?

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч, Мар'янава — Мінск**



Непадалёк мае лецішча і сын Уладзіслаў.




Сын робіць кар'еру ў віцебскай філіі МТС.

# У дзень нараджэння набыў аўто і згарэў у ім разам з жонкай

**Нагружаны пяском МАЗ урэзаўся ў малалітражку «Дэу Матыз».**

У пятніцу 13-га на МКАД адбылася жудасная аварыя, у якой загінула маладая сям'я: у «Дэу Матыз» ззаду ўляцеў нагружаны пяском МАЗ. Малалітражка ад удару загарэлася, выбрацца з палаючага легкавіка людзі не змаглі.

Сутыкненне адбылося апоўдні. Паводле папярэдняй версіі, «Матыз» чамусьці спыніўся ў другой паласе дарогі. Кіроўца ўключыў «аварыйку», аднак знак аварыйнага прыпынку не выставіў.

Відавочцы пацвярджаюць, што кіроўца і пасажыр не спяшаліся эвакуяваць машыну. Іншыя машыны былі вымушаныя рэзка прытармажваць перад «Дэу» і перастройвацца ў іншую паласу. 26-гадовы кіроўца МАЗа гэтага зрабіць не паспеў. Што стала прычынай — занадта высокая хуткасць ці адцягнутая ўвага кіроўцы — установіць следства.

Ад удару нагружанага самазвала «Матыз» выкінула на трэцюю паласу і развярнула насустрач руху. Аўтамабіль успыхнуў і за некалькі хвілін выгарэў ушчэнт. Кіроўца МАЗа спрабаваў патушыць агонь, але марна.

Як удалося высветліць «НН», загінулыя жылі ў вёсцы Старое Лядна на Лепельшчыне. Аднавяскоўцы расказалі, што жанчыну звалі Вольга, яе мужа — Фёдар. «Літаральна некалькі месяцаў таму калгас даў ім дом, абжываліся. Да гэтага Вольга жыла ў Слабодцы з бацькамі», — кажуць суседзі. Фёдар працаваў у калгасе трактарыстам, а Вольга была ў дэкрэце. У сям'і было двое малых дзяцей, узростам 1 і 3 гады.

На машыне былі ўсталяваныя транзітныя нумары. Маладыя набылі машыну на адным з мінскіх аўтарынкаў і ехалі дадому.

Кірыла Хілько



TUT.BY

Усё, што засталося ад «Дэу Матыза».

**Зламаўся на трасе — чакай на ўзбочыне**

Паводле статыстыкі, МКАД — самая загружаная і самая аварыйная дарога горада. Там заўсёды шчыльны паток аўто, які рухаецца з вялікай хуткасцю: 90 км/г ці нават больш. Таму любое спыненне на такой дарозе небяспечнае. У такой сітуацыі, паводле правілаў, трэба выставіць на дарозе знак аварыйнага прыпынку, хоць і існуе верагоднасць, што яго раструшчыць іншая машына.

Да таго ж «Матыз» важыць усяго каля 770 кг, і дарослы мужчына мог бы лёгка выштурхаць яго на ўзбочыну. Пры немагчымасці зрабіць гэта — занадта шчыльны трафік — трэба было выйсці з аўтамабіля і чакаць эвакуатар на ўзбочыне. Калі нехта і ўрэжацца ў машыну вінаватым, хутчэй за ўсё, будзе ён, бо не вытрымаў бяспечную дыстанцыю.

Кіраўнік прэс-службы ДАІ Мінгарвыканкама Тацяна Харлінская нагадвае некалькі важных правілаў. «Абавязкова выконвайце хуткасны рэжым. Калі абмежаванне 90 км/г, едзьце столькі, а не 100 км/г і нават не 91 км/г. Таксама вытрымлівайце бяспечную дыстанцыю. Калі б у выпадку гэтай аварыі дыстанцыя паміж аўтамабілямі была большай, трагедыі можна было б пазбегнуць», — тлумачыць яна.

Тацяна Харлінская дадае, што ДАІ праводзіць пастаянны маніторынг дарожнай сітуацыі на МКАД. «Апошняе інавацыйнае нoваўвядзенне — стацыянарныя камеры кантролю хуткасці. Але ДАІ можа толькі даваць рэкамендацыі, якія потым абмяркоўваюцца на ўзроўні Мінгарвыканкама. А там увогуле хочуць зрабіць МКАД аўтабанам, і мы думаем, як гэта адаб'ецца на хуткасці і аварыйнасці дарогі», — падсумоўвае яна.

**Вышук**



9 верасня каля чыгуначных калеяў у раёне 2-га завулка Р.Люксембург у Мінску знойдзены труп 43-гадовай жанчыны. Смерць жанчыны наступіла ад гвалтоўнага ўдушэння. Траўмы на целе забітай паказваюць на тое, што перад смерцю з ахвяры здзекваліся.

Усім, хто можа дапамагчы ў вызначэнні асобы падазраванага ці ведае пра яго месцазнаходжанне, просьба звяртацца ў Маскоўскае РУУС асабіста або па тэлефонах: (017) 208-78-15 , (017) 208-66-13 , (029) 356-02-30, (029) 861-89-30. Канфідэнцыйнасць гарантуецца.

Суб'ектыўны партрэт падазраванага: мужчына, падобны да еўрапейца, са смуглым колерам скуры, на выгляд 35-40 гадоў, рост каля 175-180 см, хударлявага целаскладу. Быў апрануты ў адзенне цёмнага колеру.

## Забойства ў цэнтры горада

**На вачах у людзей муж жорстка забіў былую 19-гадовую жонку.**

Жорсткае забойства адбылося 12 верасня ў цэнтры Оршы, каля будынка суда. На вачах дзясяткаў людзей 29-гадовы мужчына кінуўся з нажом на 19-гадовую дзяўчыну, некалькі разоў пырнуў яе. Двойчы трапіў у жывот і адзін раз у шыю. Дзяўчына памерла на месцы нападу, а злачынца паспрабаваў скончыць жыццё самагубствам — ударыў сябе нажом у вобласць сэрца. Дактары паспелі ўратаваць яго. Цяпер злачынца знаходзіцца ў бальніцы.

Як выявілася, пара раней была ў шлюбе, аднак нядаўна развялася. Што прымусіла мужчыну забіць былую жонку, пакуль невядома.

Заведзеная крымінальная справа, злачынцу пагражае ад 8 да 15 гадоў зняволення. Раней ён ужо быў судзімы за прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў.

ЯМ

## Здымалі на камеру хабар, а знялі сэкс на працоўным месцы

**Магілёўскі суддзя Магамед Умараў трапіў у пікантную гісторыю.**

Намеснік старшыні суда Кастрычніцкага раёна Магамед Умараў быў затрыманы за хабар. $2700 яму прынёс адвакат Анатоль Гоманаў. Аднак грошы суддзя атрымліваў пад кантролем спецслужбаў: у яго працоўным кабінеце задоўга да таго было ўсталявана відэаназіранне.

Яно і зафіксавала тры сэксуальныя кантакты шчодрага на ласку аджарца.

У аб'ектыў відэакамеры трапіла і адна з супрацоўніц суда.

Пасля таго, як сталі вядомыя пікантныя падрабязнасці працоўных будняў суддзі, усіх супрацоўніц суда прымусілі пісаць тлумачальныя запіскі — у якіх адносінах яны знаходзіліся з арыштаваным Умаравым.

Затрыманне для суддзі стала поўнай нечаканасцю. Супрацоўнікаў спецслужбы, якія праводзілі затрыманне, ён абклаў шматпавярховым матам. У адплату за гэта супрацоўнікі КДБ вывялі яго, ужо крыху «памятага», у кайданках праз цэнтральны ўваход, каб гэта бачылі ўсе калегі.

Паводле: Якуб Корсак, «Наш Магілёў»

## Сцісла

**На Дзень горада забілі прадавачак**

Каля прадуктовай крамы на ўскраіне Ліды са шматлікімі цялеснымі пашкоджаннямі знойдзены целы дзвюх жанчынпрадавачак, 1968 і 1957 гадоў нараджэння. Рабаўнікі вынеслі з крамы каля 35 мільёнаў рублёў і спіртныя напоі. За забойства з асаблівай жорсткасцю з карыслівых мэтаў злачынцам будзе пагражаць ад васьмі гадоў зняволення да расстрэлу.

**Забіў адкруткай і закапаў**

Па справе забойства ў Глуску Тацяны Пою і яе трохмесячнай дачкі Аліны арыштаваны сужыцель жанчыны, супрацоўнік банка. Яны жылі разам, мелі агульнае дзіця. Аднак калі нарадзілася другое дзіця, грамадзянскі муж не паверыў, што дачка ад яго. Падчас чарговай сваркі ён забіў у сваім доме жанчыну і немаўля, пасля чаго на машыне вывез целы да суседняй вёскі Хвастовічы і закапаў. Трупы ўжо знойдзеныя. Ён сам паказаў месца пахавання..

**Трапіў пад нож камбайна**

На Навагрудчыне пенсіянер трапіў у жняярку камбайна і атрымаў несумяшчальныя з жыццём траўмы. 75-гадовы вясковец знаходзіўся на кукурузным полі. Кукуруза была высокая, таму механізатар не мог пабачыць у ёй чалавека. І механізатар, і нябожчык былі цвярозыя. Аднак пенсіянер меў праблемы з апорнарухальным апаратам і слыхам, што спрычыніла трагедыю.

**Карова збіла банду канакрадаў**

Незвычайныя злодзеі з'явіліся на Ваўкавышчыне. Яны выкрадалі кароў і коней, а затым прадавалі мяса жывёл. У злачынстве падазраюцца жыхары вёскі Дубаўцы і жыхар Скідаля. Напярэдадні затрымання яны спрабавалі скрасці карову на адной з мясцовых ферм. Але тая аказала актыўны супраціў. Аднаго са зламыснікаў яна пранесла на рагах каля 70 метраў, іншым пакінула сінякі на памяць.

ЯМ

# Беларускі прапаршчык змагаецца за права трапіць у гурт «ВІА Гра»



«Калегі **па МНС** падтрымліваюць мяне», — расказала яна.

Беларуска Алена Беразіна прайшла ў фінал конкурсу «Хачу ў ВІА Гра» — праекта, пасля якога мусіць з'явіцца новы склад аднайменнага гурту.

Што цікава, дзяўчына працуе ў Міністэрстве надзвычайных сітуацыях.

«Рэч у тым, што я даўно ўдзельнічаю ва ўсіх магчымых кастынгах і шоу, — расказвае Алена. — Відаць, гэта асаблівасць майго характару. А «ВІА Гра» — гэта мая мара з дзяцінства, мне заўсёды хацелася папрацаваць разам з Канстанцінам Меладзэ.

Гэта легендарны праект, усе дзяўчыны мараць трапіць туды.

Вось і я, калі была маленькай дзяўчынкай, хацела стаць адной з удзельніц у «ВІА Гра». А тут лёс сам працягвае мне гэты шанец на далоні».

**«НН»: І вы дасягнулі на конкурсе пэўных поспехаў?**

**АБ:** Я ў фінале! На жаль, не магу расказаць усіх падрабязнасцяў — гэта ўмова кантракта. Аднак нас цяпер 23 дзяўчыны. Мусіла быць 24, аднак удзельніца ад Грузіі паехала на «Міс Сусвет». Цяпер нас рыхтуе сам Меладзэ, мы жывём у «Зорным доме». З намі працуе Алан Бадаеў уласнай персонай! Цяпер нас падзялілі на восем гуртоў, па тры дзяўчыны ў кожным. Фарміраваў іх сам Меладзэ. Мы спаборнічаем у тройках.

**«НН»: Вы працуеце ў МНС. Як вашыя калегі паставіліся да ўдзелу ў конкурсе?**

**АБ:** Так, я працую салісткай-вакалісткай у аркестры МНС. Я вам скажу, што ў МНС служаць мужчыны з вялікай літары. Хто ж яшчэ пойдзе тушыць пажары, рызыкаваць жыццём — толькі сапраўдныя мужчыны.

Ці можа ім не падабацца такі легендарны праект, як «ВІА Гра»? Там прыгожыя, маладыя, таленавітыя дзяўчыны. Таму мае калегі цалкам падтрымліваюць мяне ва ўсім, што звязана з «ВІА Гра». Вось калі б гурт ім не падабаўся — тут бы ўжо ўзнікалі пытанні.

**Юрась Ускоў**

# Вайцюшкевіч запісаў дыск турэмнага шансону

Аўтарам словаў стаў паэт **Генадзь Бураўкін**.

Зміцер Вайцюшкевіч падрыхтаваў альбом «блатной» беларускамоўнай песні, які мае выйсці ў кастрычніку. Амаль усе тэксты на альбоме, які атрымаў назву «Варанок», напісаў паэт Генадзь Бураўкін. У інтэрнэце з'явіўся першы сінгл з альбома — пяць песняў, якія даюць уяўленне пра яго агульнае гучанне. Паслухаць іх можна на сайце «НН». Дыск запісаны пад псеўданімам Хведар Шчавель, а сінгл атрымаў назву «Шо-Шо». Сам, скажам так, грамадзянін Шчавель нават мае ўласную біяграфію — паходзіць з Глыбоччыны і г. д. Загалоўная песня «Варанок» вытрымана ў стылістыцы «рускага шансону», іншыя трэкі адышлі ад «традыцый» далей. Пачынаецца «Варанок» такім чынам:

Я помню той начны званок,
Сірэны міліцэйскай рэха.
Ну што ж ты лёс мой, варанок,
Так нечакана пераехаў.

Да таго ж у альбоме паўдзельнічалі музыкі джаз-каманды Apple Tea, што надало песням пра сумны турэмны лёс густоўныя аранжыроўкі..

**ЮУ**






**Камертон Сяргея Ваганава**

# Шкарпэткі для галоўнага

Пасцябаліся з выязнога мыта і яго вынаходніка, павылучалі розных версіяў, а на галоўнае пытанне забыліся: чаму менавіта 100 даляраў? Нехта ж, мусіць, вылічваў дакладную лічбу — чухаў патыліцу, моршчыў лоб, абліваўся потам...

Сапраўды, гэта ж трэба было падлічыць, колькі ў краіне шопаголікаў, колькі разоў на тыдзень гойсаюць туды-сюды... А галоўнае — колькі дзяржаве не хапае грошай, каб не абрынуцца ў прорву. Мо тых самых $3 мільярдаў, што, паводле Лукашэнкі, засталіся ў «Акропалісе» ды іншых заходніх гіпер... і супер...

Асабіста мне жыцця не хапіла б, каб зрабіць гэткі падлік. Але ж ёсць у нас геніі эканомікі, адзін Пракаповіч чаго варты. Мо ён і лічыў? Вось жа сказаў як адрэзаў: месяц-паўтара. Я так разумею, што паўтара на ўсялякі выпадак — а раптам падскочыць нараджальнасць і спатрэбіцца пералік?!

Чытач, мусіць, вырашыў, што я таксама не ўстрымліваюся ад сцёбу. Не, я вельмі сур'ёзна, нават пакаянна. Бо не аднойчы сам спрычыняўся да разбурэння айчыннага рынку, наносіў дзяржаве дасюль не падлічаную шкоду. Аж тры разы...

Першы — у кастрычніку 1989, калі на пачатку бабінага лета мы са Славам Дубінкам памкнуліся ў Польшчу на ралі журналістаў Еўропы. Ну, пра ралі — калі- небудзь. А зараз пра *бэбахі*, як называў іх Слава. То бок розныя побытавыя прылады, якія, па чутках, мелі вялікі попыт у тагачаснай Польшчы.

Якое ралі?! Ні я, ні Слава ніколі не былі аўтагоншчыкамі. Атрымаўшы прапанову Саюза журналістаў, са зразумелай ахвотай паехалі ў краіну, якая толькі-толькі выблыталася з камуністычнай няволі. На тое, вядома, патрэбны грошы, зарабіць іх можна продажам згаданых прылад. Так нам здавалася. Ведаючы пра недасягальны Славаў вопыт вандроўніка, я спытаў у яго, ці прадаваў ён такім чынам хоць што. Адказу не пачуў, толькі нейкі ўсмешлівы гук, маўляў, не хвалюйся, усё будзе чын-чынаром... Дасюль памятаю, як поўзаў па «Волзе» мытнік, пакуль я не тыцнуў яму ледзь не ў твар пасведчанне тады яшчэ ўсесаюзнай газеты «Труд». Непрыгожа, але што было рабіць?!

## Як здарылася, што свет перакуліўся, і сёння народ павёз за мяжу грошы, а не тавар?

Тагачасная Польшча кінулася ў вочы крамай пры дарозе, у якой не было нічога, акрамя гумавых ботаў; іржавым легкавіком «Паланэзам», да якога былі прычэплены сялянскія, на гумавых колах, калёсы, з верхам набітыя старой цэглай; доўгімі чэргамі да бензазаправак... Тут нам трохі пашанцавала, і мы здолелі «ўцюхаць» каністру паліва, нават не далі сябе абдурыць. А вось з бэбахамі...

Не, пра бэбахі трошкі пазней. А зараз пра шкарпэткі.

Тая прыгода адбылася недзе ў сярэдзіне 1990-х, калі галоўны рэдактар згаданай газеты заўважыў на шкарпэтках чальцоў рэдкалегіі дзіркі...

Дзіркі дзіркамі, але на той час ужо існавала дзяржаўная забарона — не, не ўвозіць — вывозіць з Беларусі амаль усё. А тут паспрабуй, вывезі ў Маскву некалькі вялізных скрыняў са шкарпэткамі, бо рэдкалегія ці не самай тыражнай у свеце газеты вырашыла назапасіць іх на гады. Мяжы, вядома, з Расіяй няма. Але ж куды схавацца ад патрулёў, што павольна прагульваюцца ўздоўж цягнікоў і пільна сочаць за кожным?..

З падрабязнасцяў той аперацыі ўзгадаю толькі ноч, бясконцы снег і слізкую, ад самога Віцебска, шашу; палюбоўніцу адказнага сакратара, што скурчылася ззаду пад скрынямі са шкарпэткамі славутай фабрыкі «КіМ»; ну, і самога сакратара, які ўжо пашкадаваў, што ўзяў палюбоўніцу, бо месца для шкарпэтак у купэ на дваіх дакладна не хапала... Карацей кажучы, вярнуўся праз тыдзень, заплаціўшы за два купэ. Ужо і не памятаю, як, рызыкуючы, здолелі цягам некалькіх разоў загрузіць тыя шкарпэткі...

У Вільню ўсё на той жа рэдакцыйнай «Волзе» я вазіў керамічную плітку. Калега і сябар рабіў рамонт кватэры, а ў Літве не тое што пліткі, нават клеюбыло не знайсці.

Ехалі без візаў, хоць мяжа і мытня ўжо існавалі, і абыцці забарону на вываз беларускіх тавараў было наўпрост немагчыма. Калі мытнік падазрона аглядаў аўто, што прасела амаль да зямлі, я працягнуў яму ўласнаручна складзеную даведку пра неадкладную патрэбу літоўскага карпункта вядомай расійскай газеты. На смятану, што хавалася ў жонкі калегі, даведкі не было...

Як жа такое здарылася, што свет перакуліўся, і сёння народ павёз за мяжу грошы, а не тавар? Нібыта гэта палякі ды літоўцы два дзесяцігоддзі карміліся з расейскай нафты ды газу...

Вось і хвалююся: а ці ведае Пракаповіч, дзе шукаць $3 мільярды замест нашых кішэняў? Думаеце, не ведае? Ведае. Але не скажа.

**P.S.** Свае бэбахі — помпу для калодзежа і бульбадзёр завода «Чырвоны барацьбіт» — Слаўка так і не прадаў. Імаверна, палякам на той час сама лепш было набыць запалкі, бо прыкурыць каштавала, як памятаю, 20 злотых. Але Слаўка, светлай памяці, не курыў...

На мяжы патрапілі да таго ж мытніка, якому два тыдні таму тыцкаў пасведчанне. «Што, — усміхнуўся, — назад везяцё?!»

І задаволена пакруціў пальцам ля скроні...

*kamerton_41@mail.ru*

# «Зрэзалі дрэвы, тры разы пераклалі асфальт»

Жлобін **аўральна рыхтуецца** да «Дажынак».

У горадзе кажуць, што свята запланаванае на 27—29 верасня, але дату могуць пераносіць яшчэ не раз.

У Жлобіне тым часам наводзяць парадак у экстранным рэжыме. На гэта ёсць свае прычыны. Сталіцу «Дажынак-2013» Аляксандр Лукашэнка вызначыў толькі ў лютым 2013, папярэдне адхіліўшы кандыдатуры Рагачова і Гомеля. Пакуль сабраўся аргкамітэт, пакуль распісалі бюджэт... Часу на працы засталося мала.

«Кладуць асфальт па тры разы чамусьці, — расказвае пра сітуацыю ў горадзе жлобінскі дэмакратычны актывіст Валерый Рыбчанка. — Знеслі ўсе кіёскі, мэблю вось завезлі ў гатэль... Праца ў іх пачынаецца ўжо а 8-й раніцы з паседжанняў у гарвыканкаме, а заканчваецца толькі а 8-й вечара».

Цяпер на добраўпарадкаванне горада, па словах Рыбчанкі, кінулі служачых. «З кожнага прадпрыемства, нават малога, па два-тры чалавекі на дзень на працы адпраўляюць», — кажа ён.

У астатнім падрыхтоўка да «Дажынак» ідзе ў звыклым для Беларусі рэжыме — у цэнтры горада фарбуюць дахі, ставяць платы.

А вось на выкананне будаўнічых тэхналогій часу бракуе. Стары шыфер на дахах хлявоў фарбуюць з пульверызатара — абы пратрымалася да «Дажынак».

«На мой дом тры дні таму без усякага шпаклявання і грунтавання нанеслі фарбу, — напісаў жлобінец Раман Пінчук. — Пайшоў першы дождж — і фарба сцякла!» **(глядзі фота злева)**

Дарэчы, ягоны дом пафарбавалі толькі з боку Лядовага палаца. А з адваротнага боку — хоць трава не расці.

Жыхароў Жлобіна абурае знішчэнне рэліктавых дрэваў на ўзбярэжжы Дняпра — сосны нібыта закрывалі від на новы мікрараён, таму кіраўніцтва горада вырашыла іх спілаваць.

## «Дажынкі» каштуюць бюджэту $110 мільёнаў



«Вядома ж, для Жлобіна «Дажынкі» гэта вельмі добра, — кажа былы старшыня гарвыканкама Уладзімір Ерафееў. — Яшчэ ў 2009 было выяўлена, што Жлобін знаходзіцца на «гранічна нізкім узроўні добраўпарадкавання». Таму на 90% тое, што робіцца цяпер, — гэта для горада карысна. Аднак вырубка дрэваў — не што іншае, як самадурства чыноўнікаў. Тое самае адбываецца і на бульвары Металургаў — гэтыя дрэвы растуць там па 30-40 гадоў, і знішчаць іх недапушчальна».

Бюджэт свята складае традыцыйны 1 трыльён рублёў — гэта $110 мільёнаў.

Столькі, дарэчы, каштавала і леташняе свята ў Горках. Праз год пасля яго і павылазілі ўсе хібы паскоранай работы, пры якой пра даўгавечнасць ніхто не думае.

А тым часам прэзідэнцкім указам вызначаная сталіца наступных «Дажынак». Плюсы і мінусы аўральнай працы спазнае Гарадок — райцэнтр на Віцебшчыне, на мяжы з Расіяй.

**Мікалай Левертаў, фота Сяргея Зініна.**




**Раёны змагаюцца паміж сабой за прыгажосць «саламяных монстраў», якія весяляць турыстаў.**



**Дом «пацёк» пасля дажджу. А з адваротнага боку яго і не фарбавалі.**



**Экспрэс-фарбаванне шыферу з пульверызатараў.**



**Платы фарбуюцца толькі на цэнтральных вуліцах, дзе паедзе Лукашэнка.**



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**Закінутая пуня за сімвалічным сінім плотам не трапіць на вочы рэспубліканскім чыноўнікам — значыцца, хай стаіць.**

# «Польшча магла б выставіць Беларусі яшчэ большы рахунак»

Да дыскусіі пра дзейнасць Арміі Краёвай.

Прачытаў у №23 за гэты год пад рубрыкай «Палеміка» аб беларуска-польскіх адносінах. І вось выказваю сваё меркаванне. Сп. Анатоль Сідарэвіч піша, што «АК змагалася ... за Польшчу ў межах 1921 — г.зн. зноў жадала падзяліць наш народ і нашу краіну». А Сталін даў свабоду на тэрыторыі БССР? Ужо ў 1922—1924 гг. у Заходнюю Беларусь былі закінутыя ўзброеныя бандыцкія групы на чале з Кірылам Арлоўскім і іншымі, якія праводзілі шмат тэрарыстычных дыверсійных актаў супраць мясцовых польскіх улад, сядзібаў сельскагаспадарчых уласнікаў, супраць простых паліцыянтаў і паштавікоў. Што, гэта польскі ўрад іх справакаваў?

А потым пачалі актыўна развіваць антыпольскія падпольныя групы (КПЗБ і іншыя), чые актывісты атрымлівалі грошы ў савецкіх консульствах, актыўна выступалі супраць палітычнай улады — за далучэнне да БССР! А колькі было забіта ці выслана ў ГУЛАГ беларускіх дзеячаў, інтэлігенцыі, простых рабочых і сялян? Сотні тысяч, а дзясяткі тысяч з іх загінулі. Сідарэвіч піша, што, каб «была б тут (у БССР) улада беларуская, АК гэтак жа змагалася б з ёю». Калі б ды кабы — у садзе вырaслі б грыбы!

А на тэрыторыі Заходняй Беларусі польскі ўрад не праводзіў масавага антыбеларускага тэрору, саджалі самых актыўных у лагер Картуз-Бярозу, у якім усяго было толькі каля 5000 месцаў — гэта для ўсёй Польшчы з яе 38-мільённым насельніцтвам — на ўкраінцаў, беларусаў, яўрэяў, палякаў разам ўзятых. За пяць гадоў існавання ў лагеры загінулі толькі два чалавекі — яны памерлі ад хваробаў у бальніцы Брэста. А тыя, хто згаджаўся падпісаць дамову аб адмове ад палітычнай дзейнасці супраць польскіх улад, вызваляліся дамоў пад нагляд мясцовай паліцыі. А ці было такое ў БССР і СССР?

## Чаму ж цяпер сучасная ўлада Беларусі ацэньвае АК з прасавецкіх пазіцый?

У 1941 АК была афіцыйна распушчаная, таму тэрарыстычныя дзеянні рэштак падпольшчыкаў не былі дазволеныя польскім урадам...

Так, польскія ўлады ў 1925—1939 вялі няправільную палітыку да беларусаў і ўкраінцаў, чым, як правільна піша Сідарэвіч, скарысталіся падпольшчыкі і сталінскія дзеячы. Чаму ж цяпер сучасная ўлада Беларусі ацэньвае АК з прасавецкіх пазіцый? Бо Лукашэнка ў сваёй замежнай палітыцы пляцецца ў хвасце цяперашняй палітыкі Пуціна, які праводзіць і антыбеларускі, і антыпольскі курс. Так што Польшча магла б прад'явіць і Расіі, і Аляксандру Лукашэнку яшчэ большы рахунак, чым Расія і Беларусь, але цяпер гэта ўжо — гісторыя.

**А.Станкевіч, Гродна**

# Каня бойся ззаду, бугая спераду, а недапечанага кіраўніка — з усіх бакоў

Інстытут імя Кірава, тэхналагічны, баяць, недабраў ажно 1000 няв.., даруйце, студэнтаў. Ляснулі выкладчыцкія стаўкі і заробкі. Жорсткі недабор у сельгасінстытут у Мінску.

Дык вось, адна з прычын — наяўнасць жастачайшага падыходу да няволь..., даруйце, да студэнтаў. Мабыць, народ не хоча звязвацца з перспектывай рабскага размеркавання, пракурорскім сачэннем і выплатай міфічных затрат з працэнтамі на інфляцыю і пранцы. А ў БАТУ гэта яшчэ і пагроза перспектывы быць прывязаным да свінога хваста мо год на 5, а мо і пажыццёва ды пад кіраўніцтвам якоганебудзь наменклатурнага, а значыцца, недатыкальнага, самадура. Памятаеце, было такое ў СССР: пакуль не адпрацуе, дыплому не давалі.

Наколькі такі крэтынізм увасобіцца ў канкрэтным платным канцлагеры — сказаць цяжка, але каня бойся ззаду, бугая спераду, а недапечанага кіраўніка — з усіх бакоў.

**Мікалай Бусел, Дуброва (Светлагорскі раён)**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Беларуская глыбіня. **Бес свінства**

Піша **Павал Севярынец**.

*Дэманы, выйшаўшы з чалавека, увайшлі ў свіней, і кінуўся гурт з урвішча ў возера і патануў.*
*Лукі 8:33*



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

У Евангеліі паводле Лукі ёсць такая гісторыя. У нейкай краіне Гадарынскай сустрэўся Ісусу апанаваны бесамі. Даведаўшыся, што дэманаў шмат і імя ім *легіён*, Госпад выгнаў іх з чалавека. На просьбу бесаў не пасылаць іх у бездань, ён дазволіў ім увайсці ў статак свіней, што пасвіліся непадалёк. Больш за дзве тысячы свіней кінуліся з урвішча ў возера і патанулі. Чалавек ацаліўся.

Што характэрна, жыхары той краіны выйшлі насустрач Ісусу і... пераканаўча папрасілі вызваліць іх, так бы мовіць, ад Ягонай прысутнасці.

Гісторыя, вядома, не пра свіней — пра людзей. Свінячы віск, што закладае вушы беларусам апошнія месяцы, усё пра тое ж.

Яны прыходзяць, як сталінская «тройка», імем закона і без аніякага закону — упаўнаважаны сельсавета, ветэрынар і ўчастковы. Калі свіней багата — з машынай або пагрузчыкам. Недзе ўколы не ўсыпляюць з першага разу, тады дабіваюць кавадлам. Калі вяскоўцы адмаўляюцца адчыняць хлеў, прыязджае амап. Пяцікіламетровая зона вакол свінакомплекса (а іх у Беларусі больш за сотню) — без размоў. Усіх астатніх біруць пострахам: «Рэжце да пятага ці то пятнаццатага, бо пасля аніякай кампенсацыі не будзе».

«Ты колеш свінню — я калю цябе!» — ашалелы беларус стаіць па калена ў гноі ў дзвярах хлява, у адной руцэ вілы, у другой — сякера. Амап раіцца з сельсаветам, той адстрэльвае пагрозамі ды трубіць адступленне.

У грамадскім штабе, сабраным хрысціянскімі дэмакратамі, наперабой наракаюць то на зверствы мясцовага чынавенства, то на глухую адзінаасобную замкнёнасць людзей. Але справа ідзе. Ветэрынар Аляксей на «гарачай лініі», некалькі фермераў, сярод якіх ружанец Міхась Новік, аб'язджаюць суседзяў; рыхтуюцца позвы ў мясцовыя суды, афармляюцца заявы гаспадароў — і вось ужо Дэпартамент ветэрынарнага кантролю «абвяргае» перамоўшчыка са штабу, а дырэктар саўгаса мусіць прылюдна тлумачыцца і асаджваць падначаленых праз тэлевізію.

Людзі дзякуюць: свінства прыціхла. Цяпер сельсавецкія тактоўна стукаюцца ў калітку і цікавяцца, ці ёсць ахвотныя *здаць*.

Што, праўда, усім ясна: часова.

З ветэрынарам Аляксеем Цюльковым мы пазнаёміліся на мінскай пілігрымцы ў Будслаў, куды ён ішоў з дачушкай. Невысокі, у акулярах, у свой час падлеткам прачытаў класіку, Джэймса Хэрыёта, і прысвяціў жыццё лекаванню жывёлаў. Памятаю, агітаваць за яго на мясцовай кампаніі было адно задавальненне: лічы, у кожнай кватэры ў шматпавярхоўках ягонай акругі ў Асіповічах нас яшчэ ў дзвярох сустракала: «А-а, за Лёшу? Канечне, ён жа нашага сабачку (коціка, хамячка, канарэйку) вылечыў!..» На доўгатэрміновым «галасаванні» ў скрыню ўбухалі колькісот біюлетэняў за доктарку тутэйшай палiклінікі ды інжынера камбіната бытавога абслугоўвання, але ў дзень «выбараў» хадэк Аляксей набраў столькі, што стаў дэпутатам райсавета ўжо ў першым туры.

Як толькі пачалося павальнае знішчэнне свіней пад Баранавічамі, Аляксей даў інтэрв'ю «Хартыі», дзе папярэдзіў: свіная чума — гэта катастрофа. Назаўтра звольнілі з працы (новую знайшоў праз дзень — адмыслоўцаў яго нага ўзроўню адрываюць з рукамі).

Аляксей лічыць, што з чумой можна справіцца толькі абсалютнай празрыстасцю, адкрытасцю і супольнымі намаганнямі — з добраахвотным удзелам жыхароў і краінамі-суседзямі. На працу бярэ «гарачы тэлефон», раіць, што рабіць сялянам ды фермерам, рыхтуе памяткі для прэсы; запрошаны ва ўкраінскую амбасаду, спрабуе патлумачыць, чаму ў нас няма афіцыйнай інфармацыі... Пераконвае, рубіць маленькай, але крэпкай далонню па стале, толькі акуляры паблісківаюць, — так зацята, быццам гаворка ідзе не пра свіную хваробу, а як найменш пра жыццё і смерць ягонай сям'і.

Міхась Новік пад'язджае на разбітай машыне, што грукоча, нібы танк: рассадзіў па грунтоўках Пружаншчыны, ад адной вёскі да іншай. Міхась ратуе людзей ад *свінства* — ездзіць і пераконвае не аддаваць здаровую жывёлу на ўбой, змагацца, судзіцца... «Адзін дык гатовы з віламі за свінаматку жыццё пакласці — а разам сабрацца... Э-эх...Такі боль, такі боль», — Міхась сутаргава ламае пальцы, у пакутліва зморшчаных вачох адчай.

Журналістка Тамара Шчапёткіна з Бярозы выступае на мітынгу, што стыхійна сабраўся ў Сяльцы. Раз'юшаныя вяскоўцы прыехалі машынаю шукаць *апазіцыю* ажно ў Белаазёрск — і цяпер засвітчаюць чыноўнікаў ды пляскаюць «незалежным». Назаўтра ў Тамары паломніцтва ў навакольных вёсках.

Глыбокая, глыбокая беларуская душа — бы тое Тыверыядскае мора, дзе патанулі свінні. Лядоўні раскупленыя, мяса вывальваецца, але запаснога парсючка да сватоў у суседнім раёне, дзе пакуль, цьху-цьху, яшчэ не хадзілі, везлі, быццам дзіцятка, захутанага ў пакрыва, у абыход посту ДАІ...

Цяпер — чуткі, што пераб'юць усіх дзікоў. А потым возьмуцца за карову.

І, што характэрна, стаяць у весніцах, хадэкам дзякуюць, але рабіць штосьці разам наадрэз адмаўляюцца. Аво-ой. Малайцы вы, канечне, за народ, за праўду, але давайце хутчэй адсюль, ды лепей лесам, каб сельсавецкія не агледзелі, што размаўляем.

Іхні выдых палёгкі адчуваеш ужо спінай. І быццам мурашкі па скуры прабіраюць высновы з евангельскае гісторыі.

Адзін чалавек важнейшы за свінняў, нават цэлы статак. Людзям гэта зразумець цяжка. Часам, каб даняць, даводзіцца ахвяраваць собскім быдлам.

Зло ў людзях — страшная сіла, у адной душы і цэлае войска нячысці змесціцца. Але, як ні круці, канец яму — бездань.

Мы так баімся застацца без свайго роднага зла, што пяшчотна гніе ў душах... Мы енчым да Бога: не трэба, не муч нас... не цяпер... Я сам!..

Але выгнаць з нашага сэрца цэлы свінакомплекс бесаў — страх, зайздрасць, скнапасць, прагавітасць, блуд, ляноту, п'янства, пыху, імя ім легіён, з усёй іхняй чумой, усім іхнім гноем — можа толькі з нашае згоды і адно толькі Ягня Божае.

*Куплін*

**Малайцы вы, канечне, за народ, за праўду, але давайце-ка хутчэй адсюль, ды лепей лесам, каб сельсавецкія не агледзелі, што размаўляем**

# Вольга Казак: **У Нью-Ёрку ўсе ведаюць, што я — беларуска**

Спявачка-эмігрантка трапіла **ў амерыканскія хіт-парады**.



**Бацькі заўсёды настойвалі, каб дома я размаўляла па-беларуску.**

Як артыстку яе ведаюць пад псеўданімам Olyia. 33-гадовая Вольга Казак запісала песню Like Heaven («Нібы ў раі»), з якой трапіла ў ратацыю на нью-ёркскіх радыёстанцыях. А першыя ў жыцці песні Вольгі былі беларускія.

«Спяваць я пачала, мабыць, да таго, як нарадзілася, — мая мама выступала цяжарнай, — расказала Вольга «Нашай Ніве». — Я нарадзілася ў музычнай сям'і. Мая мама — заслужаная артыстка Беларусі і салістка Беларускага радыё і тэлебачання Валянціна Пархоменка, а бацька — Аляксандр Казак, таксама саліст. Музыка і людзі мастацтва ў маім жыцці былі з маленства. Я часцяком бывала на Гомельшчыне і на брэсцкім Палессі, спявала народныя песні разам з бабулямі на мясцовых дыялектах. Гэта засталося ў мяне ў крыві.

У 7—8 гадоў я вырашыла, што буду кампазітарам, вучылася ў гімназіі Ахрэмчыка, грала на цымбалах...»

У пачатку 1990-х Вольга з бацькамі выехала ў ЗША. Ехалі не да чужых: у Нью-Ёрку ад 1950-х жыў дзядзька Алеся Казака, беларускі мастак з Навагрудчыны, Мікалай Казак, які апынуўся за акіянам пасля вайны. У ЗША Вольга вырасла, тут яна скончыла Джорджтаўнскі ўніверсітэт па спецыяльнасці «міжнародныя медыя». «Амерыка на мяне моцна паўплывала, — кажа Вольга. — Я пачула музыку з усяго свету». У яе песнях гучаць ноткі соўлу, рэгі, r- n-b.

**«НН»: Чалавеку з Беларусі цяжка «прабіцца» ў амерыканскім шоу-бізнэсе?**

**Вольга Казак:** Я ніколі не імкнулася «прабіцца», ды і не лічу, што «прабілася». Для мяне гэта, хутчэй, духоўная патрэба. Пісаць песні мне неабходна — як дыхаць. Ёсць эмоцыі, якія немагчыма ўтрымаць: аднекуль прыхо-дзяць ідэі, мелодыі, словы... Яшчэ, калі пішаш, трэба не баяцца крытыкі, а я вельмі моцна «атрымлівала» ад бацькоў.

Беларусы вельмі таленавітыя, у нас цудоўныя музыкі, мастакі, паэты, яны раскіданыя па ўсім свеце. Трэба проста падтрымліваць адзін аднаго.

**«НН»: Як стваралася песня Like Heaven?**

**ВК:** Я напісала яе, калі мне было 16—17 гадоў. Ідэя прыйшла ўначы. Песня пра бацькоў, пра тое, як аддзячыць ім за ўсё, чым яны ахвяравалі для мяне. Пра тое, што нешта добрае ў свеце заўсёды існуе. Пра гэтую песню я пасля забылася, а некалькі гадоў таму ўзгадала — у лістападзе з гэтай песняй я перамагла ў конкурсе «Зорны Шанец». Тады яна і трапіла ў ратацыю радыёстанцый. Я вырашыла выпусціць яе як сінгл. Чарльз Мэк, з якім я працую, цудоўны спявак і прадзюсар (намінаваны на «Оскара» і «Грэмі») згадзіўся ўзяць удзел у праекце. Разам з ім мы таксама запісалі песню Without me («Без мяне»). Частка атрыманых грошай пералічваецца на дапамогу дзецям—ахвярам Чарнобыля.

**«НН»: Ці цяжка захаваць беларускую свядомасць за тысячы кіламетраў ад Беларусі?**

**ВК:** Усе мае сябры ў Амерыцы, дзе я вырасла, ведаюць, што я — беларуска. Мне не цяжка захаваць беларускую свядомасць, бо гэта тое, што я ёсць і чым буду ўсё жыццё. Мае бацькі аддалі шмат год і здароўя, каб захаваць беларускую песню, мову. Мне важна, каб мае дзеці ведалі, што яны беларусы, хто мы і адкуль наш род, якая ў нас багатая культура. Я ганаруся тым, што я — беларуска.

**«НН»: Ці прымаеце вы ўдзел у жыцці беларускай дыяспары ў Нью-Ёрку?**

**ВК:** З першых дзён нашага жыцця ў Амерыцы мы ўдзельнічаем у беларускіх мерапрыемствах. Бацькі заўсёды настойвалі, каб дома я размаўляла па-беларуску. Мы прэзентавалі радзіму на міжнародных фестывалях, бралі ўдзел у З'ездах беларусаў свету, супрацоўнічалі з беларускімі цэрквамі, каб сабраць сродкі на дапамогу чарнобыльцам.

**«НН»: Ці збіраецеся выступіць у Беларусі?**

**ВК:** Пакуль не запрашалі. Здаецца, там мяне яшчэ не ведаюць. Неўзабаве выйдзе некалькі маіх беларускамоўных сінглаў.

**Юрась Ускоў**

## Фільм «Авель» здымае невідушчы прадзюсар



Інфармацыю пра тое, што ў Галівудзе здымаецца кіно пра Беларусь, пашырыў драматург Андрэй Курэйчык. Ён жа назваў імёны выканаўцаў і абсецыў, што фільм будзе шматмільённым адказам дзяржавы на стужку «Жыве Беларусь», дзе раскажуць «усю праўду» пра Плошчу-2010.

Прадзюсары фільма Сяргей Ждановіч і Руслан Вітранюк, якія ў дадзены момант знаходзяцца ў Лос-Анджэлесе, пераконваюць у адваротным. «Амерыканцы, якія чыталі сцэнар, не знайшлі ў фільме ніякай палітыкі, толькі гісторыю чалавечых лёсаў. Гэта гісторыя двух братоў, двух беларусаў, якія апынуліся па розныя бакі барыкадаў. У Галівудзе існуе жалезнае правіла, калі фільм будзе хоць трохі нагадваць палітычную замову, ніводзін не пагодзіцца ў ім удзельнічаць. Што ўжо казаць пра зорак сусветнага маштабу», — адзначае Ждановіч. А зоркі ў фільме будуць, абяцаюць стваральнікі, хоць і не агучваюць імёнаў.

Ждановіч прызнаецца, што не глядзеў фільм Кшыштафа Лукашэвіча «Жыве Беларусь», таму не можа параўнаць, наколькі падобныя сцэнары.

Вітранюк кіруе кампаніяй Golden Bridge Entertainment, ён працаваў з П'ерам Рышарам, Катрын Дэнёў, Чакам Бэры, Арланда Блумам. Два гады таму спадар Вітранюк страціў зрок. Стварэнне «Авеля» мае для яго вялікае значэнне: «Я даказваю і сабе, і людзям, якія трапілі ў падобную сітуацыю, што жыццё можа працягвацца. Мяне ў сцэнары цікавяць агульначалавечыя каштоўнасці, бо сам я трапіў у цяжкую сітуацыю, калі людзі навокал мяне праявілі найлепшыя свае якасці. Вось па такім прынцыпе і будзе створаны фільм».

Разам з тым, кажа Вітранюк, стужку здымуць «у найлепшых галівудскіх традыцыях». Пастаноўшчыкам трукаў будзе спецыяліст, які працаваў на 400 стужках, у тым ліку на «Тэрмінатары» і «Рэмба».

«Адна з нашых мэтаў — паказаць Галівуду, што Беларусь можа стаць адной з галоўных еўрапейскіх кінапляцовак, — кажа Ждановіч. — Амерыканцы выкарыстоўваюць Чэхію, Румынію, Балгарыю... Мы мусім паказаць, што Беларусь не горшая».

**ЮУ**

**Бюджэт**

фільма «Авель» — $2 мільёны. Для параўнання: бюджэт «Анастасіі Слуцкай» склаў мільён даляраў, бюджэт знятага ў Польшчы фільма Кшыштафа Лукашэвіча «Жыве Беларусь» — $1,9 мільёна даляраў.

**Адкуль грошы**

Кампанія Сяргея Ждановіча Nonstop Media выйграла конкурс на стварэнне нацыянальнага кінапраекта Міністэрства культуры.

## Сцісла

### Халезін і Джуд Лоу ў галоўных ролях

У Брытаніі выйшаў кароткаметражны фільм «Стыкоўка». Галоўныя ролі выканалі кіраўнік беларускага Свабоднага тэатра Мікалай Халезін і кіназорка Джуд Лоу. Рэжысёрам фільма стаў Уладзімір Шчэрбань. Стужка расказвае пра сустрэчу беларуса і англічаніна ў аэрапорце, калі высвятляецца, што наш суайчыннік вярнуцца ў Беларусь больш не можа.

### Музыкі супраць смяротнага пакарання

Вядомыя беларускія музыкі, сярод якіх Лявон Вольскі, Зміцер Вайцюшкевіч, Аляксандр Памідораў, Ганна Хітрык, запішуць супольны альбом супраць смяротнага пакарання. Складанка, якая атрымала назву «Апошні золак», выйдзе ў кастрычніку. Усе песні на альбоме будуць прысвечаны таму ці іншаму спосабу выканання смяротнага прысуду.

### «Назаві мяне геніем»: выйшаў пасмяротны зборнік Гуменюка

У кнігу ўвайшлі ўсе вядомыя на сёння вершы паэта за 1989--2012. Юры Гумянюк скончыў жыццё самагубствам 19 студзеня 2013. Кніга пабачыла свет у серыі «Гарадзенская Бібліятэка» дзякуючы ахвяраванням сяброў. Уклаў зборнік пісьменнік Алесь Аркуш, блізкі сябра Гуменюка. Сродкі ад рэалізацыі кнігі пойдуць на помнік паэту на гарадзенскіх гарадскіх могілках. Прэзентацыя адбудзецца ў Гродне ў галерэі «Крыга» ў дзень нараджэння Гуменюка, 24 верасня, пачатак а 18.00.

**ЮУ**

**Таццяна Барысік.** Апавяданне.

# Жанчына і

Карэспандэнту раённай газеты «Працоўны шлях» Івану Гаўрыльчыку падавалася, што ў гэтую камандзіроўку ён едзе ўжо вельмі даўно: як дванаццаць год таму сеў у аўтобус Панкратавічы — Слабодка, так з яго і не выходзіў. Настолькі аднастайным быў навакольны краявід, жыццё і праца.

У аўтобусе смярдзела саляркаю, пад сядзеннем дрынчэла скрыня з нейкім жалеззем. За вакном плылі ўчарнелыя ад восеньскіх дажджоў слівы, напаўпустыя вёскі; гарбузы на ганку хат, крытых шыферам ці чырвоным руберойдам, быльнёг у рост чалавека пад праваленымі стрэхамі з гонты.

Сёння па заданні рэдактара Іван мусіў браць інтэрв'ю ў перадавікоў колішняга філіяла завода гароднінных кансерваў, а цяпер ААТ «Добры гаспадар» — стратнай вытворчасці, што больш як чвэрць стагоддзя вырабляе закуску «Бурачковая» і кабачковую ікру ў паўлітровых слоіках. Прадукцыя тая была добра вядомая айчынным і замежным спажыўцам, але попыту ў іх не знаходзіла. У выніку, гады тры таму завод абвясцілі банкрутам, што, аднак, не перашкодзіла яго кіраўніцтву будаваць сабе катэджы, набываць аўтамабілі і, рэарганізаваўшы прадпрыемства ў акцыянернае таварыства, працягваць выпуск экалагічна чыстай закускі.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Заўчора ў ААТ «Добры гаспадар» адбылося традыцыйнае ўшанаванне ўдарнікаў працы, прымеркаванае да Дня работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчага комплексу, а тут якраз у газеце на другую паласу не было чаго ставіць — вось і давялося Гаўрыльчыку перціся ў Слабодку.

Божухна! Колькі ж інтэрв'ю даярак, механізатараў, замалёвак, прысвечаных работнікам гандлю і лясніцтва, рэпартажаў са святаў ураджаю напісаў ён за пятнаццаць гадоў працы! Спачатку, як прыйшоў пасля інстытута ў рэдакцыю раёнкі, спрабаваў нават рабіць такія матэрыялы цікавымі. Тады былі іншыя часы, нават не верыцца ўжо. На старонках «Працоўнага шляху» знаходзілася месца і праблемным артыкулам, нарысам краязнаўцаў аб гісторыі вёсак, аб трагічных лёсах рэпрэсаваных землякоў, вершам беларускамоўных паэтаў з тутэйшага літаб'яднання. Але хутка змяніліся і часы, і галоўны рэдактар. Са ўсяго шматаблічча і шматгалосся засталіся толькі звесткі з палёў, спісаныя з райвыканкамаўскага інфармацыйнага стэнда, дурнавата-бадзёрыя рэпартажы з паседжанняў, абавязковыя віншаванні-памінанні з нагоды юбілеяў або ўзнагароджанняў якою граматай мясцовых кіраўнікоў. Фота з пратакольным выразам твару, нуднае апісанне жыццёвага і працоўнага шляху, якое наўрад ці хто чытаў, апроч самога юбіляра. Паміналаўка — так найчасцей клікалі газету яе прымусовыя падпісчыкі. Афіцыйная ж назва дашчэнту сцерлася з народнай памяці, і толькі прынцыповая пазіцыя выканкаму не давала органу друку канчаткова спыніць існаванне. «У раёне далжна быць свая пячаць! А каму не наравіцца — няхай у другі раён едзець!» — гучала нязменнае на ўсіх сходах, днях інфармавання з кіраўнічае трыбуны. «Дык мы не супраць, каб жа нармальная газета была», — бурчалі бюджэтнікі, супрацоўніцы калгасных кантор, паштаркі, падпісваючыся на «Працоўны шлях» узамен на прэмію ці адгул.


**Таццяна Барысік**
пісьменніца. Жыве ў Магілёве. Працуе настаўніцай.

«Шчырыя» споведзі «простых» людзей засталіся таксама. Асабліва яны множыліся напярэдадні прафесійных святаў. Пісаў іх звычайна Іван Гаўрыльчык. Цяпераka ўжо сталы журналіст, ён проста мяняў месцамі сказы, падстаўляў патрэбныя імёны . Ды і самі простыя людзі імкнуліся выглядаць як мага прасцейшымі — баяліся ляпнуць языком лішняе. У выніку, артыкулы, пакліканыя ўславіць чалавека працы, выходзілі падобнымі адзін да аднаго, бы меладрамы на тэлеканале «Расія», і пачыналіся прыкладна так.

«Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння школы (варыянты: службы ў войску, вучобы ў сельгастэхнікуме) застаўся працаваць у роднай гаспадарцы». Калі ж герой інтэрв'ю ці нарыса быў з наезджых, што апошнім часам здаралася ўсё часцей, дык з яго вуснаў чулася наступнае: «Родам я с Рязаншчіны, (Казахстана, Малдавіі, мать із Волагды, атца не помню). Вербавался на целіну, служіл на Дальнем Вастоке, с первой сем'ёй на Сахаліне жілі, в Манголію по кантракту езділ, в восьмідесятых снова на родімой Рязаншчіне очутілся, потом судьба сюда закінула. Да, побросала меня жізнь...». Падрабязней, хаваючы татуіроўку — крыжык на руцэ, — знаёміць з акалічнасцямі свайго лёсу грамадзянін свету не спяшаўся. І Івану заўжды карцела запытацца: «Чаго цябе, чалавеча, жыццё кідала, бы футбольны мячык па полі? Адусюль праганялі ці сам уцякаў, ажно пяты блішчэлі — так ад адыходнай кіем па спіне ратаваўся? Чаму ж толькі тут такія, як ты, знаходзяць прытулак?».

Працяг размовы быў аднолькавы, без варыянтаў. Усе перадавікі выказвалі шалёнае захапленне сваёй працай на родным прадпрыемстве ці ў калгасе, некаторыя нават спрабавалі акрэсліць перспектывы развіцця, праўда не заўжды ўдала, дзякавалі кіраўніцтву, чуламу да патрэб простага чалавека. Часам імкнуліся паведаміць цікавыя факты сваёй біяграфіі, кшталту: «Маці мая, Лаўрынько Ганна Паўлаўна, двойчы абіралася дэпутатам сельскага савета. У 1988 годзе мяне за ўдарную працу ўзнагародзілі пуцёўкаю ў саніторыю, але ж я нікуды не паехала, бо не было каму хазяйства глядзець».

Вольнага часу ў гэтых людзей амаль не было, таму ўзгадкі пра адпачынак разнастайнасцю не вылучаліся: «Люблю кветкі, у маім гародчыку іх багата. Па святах альбо як кабана заб'ём, уся сям'я збіраецца за сталом...» Цікавосткі іншага кшталту з недалёкае пары лічыліся шкоднымі для друку. Ды і самі затурканыя «простыя людзі» лічылі за лепшае не распавядаць карэспандэнту ані пра даўнія крыўды, ані пра несправядлівасць, ані пра бацькоў і сваякоў з сумнеўным мінулым.

«Пасля васьмігодкі засталася ў вёсцы. І вось ужо дваццаць чатыры гады працую на ферме. Аб сваёй долі не шкадую», — з падробленым аптымізмам прамаўляе жанчына, што ў свае няпоўныя сорак глядзіцца на пенсіянерку. А ў вачах такі сум — хоць задавіся, пэўна ад шчаснага жыцця.

Нічога іншага, мусіць, не выпадала чакаць і ад сённяшняй сустрэчы. Дабраўшыся да Слабодкі, Гаўрыльчык патэпаў па гразкай, разбітай трактарамі дарозе да знаёмай жалезнай брамы пафарбаванай сёлета ў блакітны колер. Ля ваконца цаглянай прахадной вартаўніца — мажная жанчына, абвязаная пуховай хусткай, — расклала на стале вырабы замежнай вытворчасці: стракатыя кітайскія шкарпэткі, скрыначкі смаленскіх селядцоў, украінскія цукеркі. Мусіць, гандаль на працоўным месцы існаваў амаль легальна, з нечага негалоснага дазволу, бо, пабачыўшы карэспандэнта, прадпрымальная цётка ні на грам не збянтэжылася, пачала нахвальваць свой тавар:

— Во, бярыце, усё свежанькае, сястра толькі ўчора з Хмяльніцкага прыехала!

Але Гаўрыльчык купляць нічога не збіраўся. А пачуўшы пра нейкіх там перадавікоў, вартаўніца наогул страціла да яго прыхільнасць і ўвагу:

— Няма ў нас перадавікоў, усе адзінакава робяць. Была Алка, п'яніца, дык выгналі яе. Ідзіце во па сцежцы ў жоўтыя дзверы, я зараз Генадзеўне, нашаму начальніку цэха, пазваню.

Кабінет уладнай дамы ў атачэнні іржавай абдрыпанасці наваколля ўражваў пластыкавай бялюткасцю. А сама Вікторыя Генадзеўна глядзелася местачковаю зоркай ва ўсім сваім бляску: на вушах, шыі, на пальцах і ў роце пераможна ззяла золата . Жыццё ўдалося!

— Пра перадавікоў, значыт, пісаць будзеце. Очэнь рады, очэнь рады. Адной нашай работніцы тожа грамату ўручылі. Эта гордасць нашага праізвоцтва, душа калектыву, брыгадзір аператараў. Січас пазаву. *(Ляпанне дзвярэй у калідоры)*. Ленку Багуненку прыгласіце! *(Яшчэ хвілін пяць. Шорханне, тупат. Ліслівы шэпт за дзвярыма)*: «Генадзеўна, мы тут кабанчыка ўчора калолі, дык я вам гасцінчыку прынесла. Самі ў гардэробе забярэце ці мне вечарам падысці?». Паблажлівае: «Патом, Лена, патом, ідзі з карэспандэнтам пагавары, толька, сматры, не забудзь нічога».

І ў кабінет увалілася, цягнучы за сабою нагу, гордасць вытворчасці — ускудлачаная кабета перадпенсійнага веку. Лена была старэйшая за Генадзеўну гадоў на дзесяць-дванаццаць, ранейшым часам у вёсцы яе б клікалі ўжо цёткай Аленай ці Багуненчыхай.

— Добры дзень, давайце знаёміцца. Я — Іван Гаўрыльчык, карэспандэнт раённай газеты, вырашыў напісаць пра вас артыкул. Дарэчы, Алена, як ваша імя па бацьку? А то кіраўніцтва нешта забылася паведаміць.

— Я Багуненка Алена Мікалаеўна, ветэран працы. Гэта Генадзеўна маладой мяне лічыць, дык Ленкай заве. Ды і няёмка ёй мяне па бацьку клікаць, усё ж начальства. Хаця ставіцца яна да мяне па-добраму, і я яе вельмі паважаю як спецыяліста і чулага кіраўніка, — ззяла, што новая капеечка, Ленка Багуненка, нібыта кіраўнічая прыхільнасць была найвялікшым шчасцем у яе жыцці.

«Ага, толькі чуласць у вас нейкая узаемавыгадная, — зазначыў у думках Гаўрыльчык. — Ты ёй паляндвічкі носіш, а яна цябе ў перадавікі піша і, мусіць, не пасылае перабіраць гнілую моркву, як іншых. А што дасюль Ленкаю кліча, бы смаркачку якую, то бяда невялікая».

Гутарка ж ішла паводле плана.

— У нас на ўчастку плануюць запускаць новую лінію па перапрацоўцы ягад. Заработную плату выплачваюць воўрэмя, — тарабаніла душа калектыву, камечачы ў руках нейкую паперчыну. І раптам захвалявалася, змоўкла на хвілінку, пасля зірнула ў цыдулку і зноў пачала шпарыць па- пісанаму, як выдатніца на ўроку: — У нас на прадпрыемстве праводзяцца святы: «Провады зімы»...

З аптымістычнага маналога вынікала: ААТ «Добры гаспадар» — рай на зямлі, ягонае кіраўніцтва — анёлы божыя, і ў цэлым свеце няма нічога смачнейшага і якаснейшага за кабачковую ікру з закускай «Бурачковая». А раскладанне па слоіках падгулялай гародніны — самы захапляльны і прыбытковы ў свеце занятак.

— А кім вы марылі стаць у школьныя гады? — перапыніў яе Гаўрыльчык у пошуках дазволеных цікавостак. Алена Мікалаеўна памаўчала хвілінку, глыбока ўздыхнула:

— Заўмагам марыла стаць. Пасля школы паступала ў гандлёвы тэхнікум. На сумоўі зрэзалася. Папыталі мяне: як прозвішча міністра гандлю? А я ці знаю? Хіба сваяк ён мне? — праз маску штучнай самазадаволенасці пакрысе праступаў чалавечы твар. — Вярнулася, уладкавалася сюды, спачатку на сарціроўку. Налета ў кулінарны паступаць мелася. А тут Грышка з войска вярнуўся — якая ўжо вучоба! Пасля вяселля, думала, у горад з'едзем, мужу інтэрнат абяцалі, але мяне аператарам паставілі, ды і ў дэкрэтны ўжо збіралася. Як нарадзіўся сын — свякруха нам паўдома адпісала. Вось ужо трыццаць чацвёрты год я тут працую.

— Раскажыце пра бацькоў, мясцінку, дзе нарадзіліся? — карэспандэнт сыпаў пытаннямі, якія яму за пятнаццаць гадоў аскоміну набілі. Для Алены ж гэта была хвіліна славы, магчыма, адзіная ў жыцці, таму яна асцярожнічала як магла, асабліва цяпер, калі «хатнія нарыхтоўкі» былі вычарпаныя.

«Так, — разважала ў думках душа калектыву, — мацерай пахвалюся, пра бацьку толькі згадаю. Хопіць таго, што ў школе паліцайкай дражнілі: кожнаму ж не давядзеш, чаму ён, вучаны чалавек, рабіў даглядчыкам і нідзе яму ходу не было. І што ў палон не па сваёй волі трапіў. Пра сястру Тамару раскажу, хай ведаюць: і ў мяне радня не абы-якая! Ірку і ўспамінаць не буду — зашмат гонару. Ціхая-ціхая, цялятніцаю робіць, а прыбрала матчыну хату да рук. Толік — той наадварот змалку быў адарві ды выкінь! І ні на грам не змяніўся: бацькавы грошы, што з Нямеччыны за палон прыйшлі, сцягнуў, машыну купіў і кватэру абставіў, а спіхнуў усё на заезджых цыганоў».

— Нарадзілася я ў вёсцы Тамашова Рудня, за два кіламетры ад Слабодкі, у дружнай шматдзетнай сям'і, — нацягнуўшы маску паспяховасці і ўзважваючы кожнае слова, пачала Ленка Багуненка. — Бацька мой, Мікалай Пракопавіч, працаваў на ферме даглядчыкам, маці, Марыя Макараўна — паштаркаю. Яна спявала ў хоры пры нашым клубе, а ў восемдзесят сёмым годзе яе абралі дэпутатам сельскага савета. Мая старэйшая сястра Тамара жыве ў Гродзенскай вобласці, замужам за дырэктарам мукамольнага завода. Катэдж у іх свой, дзве машыны, дзеці ў Мінску вучацца... — натхнёна нахвальвала сястрын дабрабыт Ленка, зусім забыўшыся на астатніх сваякоў. Гаўрыльчык і не настойваў, неад-

# леапард

нойчы пераканаўшыся на ўласным досведзе — калі ў справу мяшаюцца грошы і спадчына, ад дружбы ў шматдзетнай сям'і і следу не застанецца.

— Ну, а муж ваш дзе працуе?

Абысці правакацыйнае пытанне не ўдалося.

— Дзе і ўсе цяпер — у Расіі, — незадаволена буркнула Алена. І перавяла гаворку ў больш пазітыўнае рэчышча: — Большы сын уладкаваўся механікам на заводзе, меншая дачка дзясяты клас заканчвае. Я ва ўсім люблю чысціню і парадак, у мяне ў гародчыку багата кветак. Асабліва падабаецца даглядаць хатнюю гаспадарку. Я аддаю ёй увесь вольны час, бо змалку да працы прывучана...— з апошніх сіл змагалася са сваёю знявечанай свядомасцю ўдарніца працы, імкнучыся выдаць жаданае за сапраўднае.

— Ну, а як адпачываеце?

— Ат, пакуль усё папарадчышды свіням дасі, які адпачынак! Нагу сваю ўкручу ды гляджу тэлевізар, — зразумеўшы, што вырвалася нешта не тое, Мікалаеўна паспрабавала выправіць становішча. — Камп'ютар дачцэ ў крэдыт узяла. Бывае, з сястрой Тамарай, што за дырэктарам замужам, перапісваюся...

У гэты момант у кабінет зайшла сакратарка — жанчына неабыякавая да чужога гора:

— Вы ўжо выбачайце мне, я вазьму паперы ды пайду, бо дадому трэба, абяцалі брыкету прывезці. А ты, Лена, раскажы журналісту пра Сярожу. Хай бы ён у газеце яго прапясочыў ці міліцыі пажаліўся, каб прыстрашылі трохі. А то ж жыцця не дае: п'е, з двара цягне, хату спаліць гразіцца...

Перадавіца спачатку сумелася. Старанна абмаляваны свет ілюзіі ўласнага шчасця сыпаўся на вачах, бы сечка з дзіравага мяха. І тут яе нібы прарвала — трываць набалелае не было як:

— Гэта ж мужыка майго брат, у другой палове дома жыве. Алкаш, не робіць нідзе, сябрукі да яго цягаюцца. У двары таза алюмінёвага пакінуць няможна. Краёў не знойдзеш, жыві і бойся! Даруй божа, ці грэх ці два, хай бы ён ужо пайшоў куды — ці ў прымы, ці ў турму, ці на той свет. Раз бы адплакалі, затое жылі б па-людскаму. Толькі не пішыце пра гэта, калі ласка, наша Рая, сакратарка, па сваёй дурасці ляпнула. Вечна лезе, куды не просяць.

— Я ўсё разумею, супакойцеся, давайце пра добрае пагутарым. Ці ёсць у вас запаветная мара? — запытаўся Гаўрыльчык па звычцы, хаця праўдзівы адказ быў відавочным. Пакуль Сярожа на падворку, яго знікненне і ёсць адзіная праўдзівая мара Алены.

— Ай, хаця б да пенсіі дарабіць і нага не балела. Мульціварку яшчэ купіць хацелася б. У дачкі — гастрыт.

Штучны імідж ударніцы расплыўся, бы туман над канавою. Перад карэспандэнтам сядзела сталага веку жанчына, з хвораю нагой, якой усе гэтыя працоўныя дасягненні былі трэба як леташні снег.

— Ну, а калі зірнуць на жыццё шырэй, з аптымізмам, — не здаваўся Гаўрыльчык у чаканні дзяжурных словаў. Але дзіўна: Алена яго не даслухала, прыпыніўшы шматкроць чутае, агаломшыла бывалага журналіста:

— Леапардам хачу стаць, у будучым жыцці.

Пстрыкнула кнопка дыктафона.

— А цяпер не да друку.

Дзіцячы спалох у вачах кабеты:

— Што, ізноў нешта не тое? Ну, вам не дагодзіш.

— Не, працягвайце, калі ласка, мне вельмі цікава.

— Я пра яго ў кніжцы даччынай прачытала і па тэлевізары бачыла. Ён у зграі не жыве. Ляжыць на дрэве над сцежкаю, кудой антылопы на вадапой ідуць, і палюе сабе здабычу. А футра ў яго — майму паліто не раўня!

Кволы камячок павагі да сапраўднага, а не прыдуманага аблічча суразмоўцы заварушыўся ў душы Івана — там, дзе хвіліну таму панавала сумесь іроніі і шкадавання. Ад нечаканасці, не знайшоўшы патрэбных словаў, ён проста падзякаваў Алене Багуненчысе за змястоўную размову і на развітанне сфатаграфаваў яе на фоне новага абсталявання, якое ўжо больш як паўгода ў куце пылілася.

Усё-такі леапард з Індыі і чалавек са Слабодкі, што ні кажыце, шмат супольнага маюць: абодва вольнымі нараджаюцца. Але пасля ў чалавека з'яўляецца прысядзібная гаспадарка, праца, дзеці, раскрадальнік алюмініевых тазікаў Сярожка, хворая нага — і ён паўстае на раздарожжы: або ўласная годнасць, чыстае сумленне, але замардаванае існаванне штодня ды малыя шанцы дасягнуць пенсійнага веку ў выніку, альбо з аптымізмам у будучыню — з паляндвічкаю для чулага кіраўніцтва, варыкознымі ногі за сабою цягнучы. Тады фінал крыху іншы — трансфармацыя імкнення да свабоды і самапавагі ў нечаканае жаданне стаць леапардам.

Інтэрв'ю пад назвай «З любоўю да працы» ў чарговым нумары раёнкі заняло ўсю старонку. З фота змучана ўсміхалася ўдарніца Ленка Багуненка ў бялюткім халацiку, пазычаным для такога выпадку. Ад цёткі Алены Багуненчыхі і яе мары ў газеце, вядома, не засталося і следу.

— Фатаграфія красівая, і напісана харашо, дажа і па-беларускі, — заначыла Вікторыя Генадзеўна, прымацаваўшы «Працоўны шлях» на інфармацыйным стэндзе ля прахадной. Не засталіся абыякавымі да інтэрв'ю і ў сям'і Багуненкаў, дачка прапанавала нават пасланць яго цётцы Тамары ў Гродзенскую вобласць, муж маўчаў, пасміхаючыся ў вусы. Сярод астатніх жыхароў раёна твор не займеў ніякага рэзанансу. А вось у Івана Гаўрыльчыка тая камандзіроўка ўпершыню за апошнія гады не ішла з галавы.

Па першым нетрывалым сняжку ён крочыў у кнігарню. Рэдакцыйная бухгалтарка Галіна Карпаўна дала грошы і папрасіла набыць фоташпалеры ці каляндар, каб закрыць урэшце гэтую пляміну на сцяне. А то няёмка — у кабінеце ж начальства бывае рознае, і так людзі прыходзяць. Напярэдадні ў кнігарню завезлі новую друкаваную прадукцыю. У Івана аж вочы разбегліся, чаго тут толькі не было! І васількі ў жыце з надпісам «Квітней, Беларусь!», і кацяняты ў кошыку, і садавіна побач з бутэлькаю віна ў атачэнні курортных краявідаў, і вялізны каляндар з хакеістамі. Але жыццё не пакінула яму выбару з той секунды, як заўважыў тыя фоташпалеры ў куце паміж кніжнымі паліцамі...

У абед прыбіральшчыца Сямёнаўна зайшла на хвілінку да бухгалтаркі Карпаўны абмеркаваць набалелае.

— Здаецца ж, граматныя ўсе і культурныя, у газеце пішуць, у прафкаме і на радыё робяць, а бесталковыя. Колькі прасіла ў акно ля лесвіцы пустыя бутэлькі не кідаць! Рыльцы б'юцца, хто ж іх у мяне потым прыме. Не даходзіць!

— Ой, не кажы, Сямёнаўна, няма цяперашнім светам самастаяцельных мужчынаў. Вось, наш Ваня Гаўрыльчык. Здаецца ж, не раздзяўбай які, не п'яніца. Папрасіла яго каляндар купіць, думала, ён з кветкамі возьме, каб прыгожа, а ён звяругу прывалок, страшыдлу гэтую. Вось паглянь, Сямёнаўна...

Са сцяны цеснага рэдакцыйнага кабінета на Карпаўну з Сямёнаўнай годна пазіраў леапард у атачэнні зялёных шатаў. Над ім дыхала гарачынёй паўднёвае неба, а пад ім ляжала родная зямля і адзіная дарога — тая, па якой толькі ягоная здабыча на вадапой ходзіць.

# Замежная беларуская мова

Піша **Алена Германовіч**.

На прэм'еры спектакля нечакана сустрэла знаёмую. Размаўляем з ёй, і тут падыходзіць дзяўчынка, гадоў восем, і пытае, дзе ўзяць праграму спектакля. Мая знаёмая кажа малой: «Зараз прынясу!», і пабегла некуды. У дзяўчынкі вочы былі па яблыку: «Что? Что она сказала?» Я па складах паўтарыла: «За-раз пры-ня-се!» Дзяўчынка наставіла вочы і на мяне: «Што?! Што вы сказалі?» У яе вачах было такое шчырае і чыстае здзіўленне, нібы на маёй галаве выраслі ласіныя рогі, а я размаўляла на суахілі.

Каб вывесці яе з шокавага стану, я строга спыталася: «Девочка! Ты что — в школу не ходишь? Ты что — уроки не учишь? У тебя в школе нет белорусского языка?» Яна адказвае: «Хожу. Но белорусского языка не учу». Я кажу: «Девочка, да ты врешь! В каком ты классе? Все дети учат белорусский язык!» Яна спалохана адказвае: «Ну во втором. Вообще-то у нас есть белорусский язык, но мы пока слов белорусских не учили!»

* * *

Сын летась пераказвае апавяданне пра вайну з падручніка. Ну, вы ведаеце, як савецкі салдат выратаваў нямецкую дзяўчынку, вынес з-пад кулямётнага абстрэлу. Малы вельмі прыгожа пераказвае, літаратурнай мовай, з інтанацыямі. Я толькі манатонна, як настаўніца, ківаю галавой: «Так, так, так». І вось фінал. Сын урачыстым і трагічным голасам завяршае пераказ: «І вось так загінуў савецкі салдат, застрэліла яго тая нямецкая дзяўчынка, нёс ён яе, нёс — а яна дастала з-пад паліто пісталет — і выстраліла прама салдату ў сэрца!» Я падхапілася: «Што? Што? Нямецкая дзяўчынка застрэліла свайго выратавальніка? Там так і напісана? Пакажы падручнік!» Я схапіла кнігу, пачала ліхаманкава гартаць. Ды дзе ж там пра забойства? «Ну вось жа напісана! І забіла салдата нямецкая куля! Куля — так дзяўчынку звалі!», — патлумачыў малы. «А чаму тады куля — з малой літары?» — хітра запыталася я. «Таму што памылка ў падручніку!» — не разгубіўся малы.

* * *

Знаёмая распавядае, смяецца. «Сын чытаў буквар, прыйшоў і кажа: «Мама, рукі мыць — блага!» — «Чаму?» — «Я чытаў у буквары! Там напісана: дзяўчынка мыла рукі — і твар! Значыць, благая дзяўчынка, раз рукі мые, то яна твар!»

І смех і грэх. Але хіба грэх можа быць смешным?

* * *

Быў выпадак, калі я і яшчэ двое беларускамоўныя ехалі ў цягніку ў плацкарце. Побач была незнаёмая дзяўчына, здаецца, з Бабруйска. Яна была здзіўлена, запыталася, чаму мы размаўляем па-беларуску. Мы пачалі жартаваць і пераканалі дзяўчыну, што ў Гомелі размаўляюць выключна па-беларуску. Што ўсе, хто едзе ў вагоне з Гомеля, — беларускамоўныя. Яна канчаткова паверыла, калі мы звярнулі ўвагу на тое, што ў гэтым плацкарце яна «моўная меншасць». Тут узгадвае выпадкі са свайго беларускамоўнага жыцця сябра ТБМ Марыя Булавінская.

Яна аднойчы прасіла ў гомельскай кавярні відэлец. Афіцыянтка нават не перапытала — прынесла ёй талерку. «Я ёй пачала тлумачыць па-беларуску, што такое відэлец. А яна здранцвела, глядзіць на мяне і ці то зусім не разумее, ці то ў яе ступар пачаўся», — дадае Марыя.

* * *

«Неяк мы ўзялі на Купалле ў Добрушскі раён кітайца. Зайшлі там у краму. Навучылі кітайца па-беларуску запытацца нешта ў прадаўца. Прадаўшчыца не зразумела. А мы ёй кажам: «Вось бачыце, нават кітаец ведае беларускую мову!» А яна нам упэўнена заяўляе: «Ніякі ён не кітаец. І да кітайца нават не падобны!»

* * *

Журналісту Міколу Бянько ў шапіку замест папяровых сурвэтак прапанавалі чамусьці салёныя арэшкі. «Аднойчы нам адмовілі ў медыцынскай паслузе ў гомельскай паліклініцы. Мы запоўнілі нейкую паперку па-беларуску, калі рабілі флюараграфію, а нам адказалі: «Мы прымаем альбо на расійскай, альбо на ангельскай». Цяпер пішам свае дадзеныя на бланках па-ангельску», — узгадвае журналіст.




* * *

«А пры апытанцы на вуліцы нейкі выпівоха пачаў да нас чапіцца: чаго, маўляў, мы ў Беларусі на ўкраінскай мове размаўляем?» — дадае Мікола Бянько.

Украінцам ці палякам называюць часам, калі чуюць беларускую мову з яго вуснаў, і маршалка гомельскай «Талакі» Яўгена Меркіса: «У цягніку еxаў, па тэлефоне размаўляў. Сусед па плацкарце кажа іншаму: «О, бачыш, як ён на ўкраінскай мове прыгожа шпарыць! Умеюць жа! А чаму мы не можам на сваёй, беларускай, мове размаўляць?»

* * *

Настаўніца беларускай мовы і літаратуры Святлана Міхайлаўна дзеліцца сваімі назіраннямі. «Школьнікі не разумеюць такія словы, як абрус, відэлец, дыван — назвы прадметаў штодзённага абыходжання. Даводзіцца марнаваць час уроку, каб тлумачыць ім сэнс словаў. Я не перакладаю на рускую мову — грэх было б злачынствам! Тлумачу на беларускай. І з кожным годам становішча ўсё горш і горш. Дзеці не могуць фармуляваць свае думкі на беларускай мове, разважаць — не, ніяк. А што хацець — з імі ніхто не размаўляе па-беларуску. Вось быў урок на тэму «У нескладовае», пісалі слоўнікавы дыктант. Трэба было напісаць «на Урале». Адзін вучань напісаў «наўралі». Я спыталася: што гэта? І ён патлумачыў, што гэта на беларускай мове «наврали», дзеяслоў. Гэта гаворыць пра тое, што і агульнае інтэлектуальнае развіццё — слабаватае, дзеці не ведаюць, дзе той Урал, дзе той Байкал. Хіба толькі ў сям'і нехта можа на выхаваць, навучыць, развіць здольнасці дзіцяці. Я маю на ўвазе і беларускую мову, і агульнае інтэлектуальнае развіццё», — разважае настаўніца.

## ІМПРЭЗЫ

### Да!Бро!

**22 верасня а 17-й у клубе Re:Public (Прытыцкага, 62)** адбудзецца Пяты міжнародны рэгі-фестываль «Да!Бро!». Бяруць удзел «Комитет охраны тепла» (Калінінград), Botanic Project, «Адыс Абеба», «Тёплые вещи», «Хай так», Dj Mo'reason.

### Багач ў Вязынцы

**21 верасня** Студэнцкае этнаграфічнае таварыства і Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы праводзяць у Вязынцы традыцыйнае восеньскае свята Багач, прымеркаванае да заканчэння збору ўраджаю і першага запальвання хатняга агменю. На святе выступяць гурты Варган, Горынь, Dainava, Guda, Кудмень, Рада, капэла На Таку і іншыя. Пачатак а 12-й.

### Талькаўскі фэст

**5 кастрычніка а 12-й** пачнецца Талькаўскі фэст, прысвечаны гадавіне паўстання 1863. Арганізатары запрашаюць аматараў народных і бардаўскіх песень, танцаў і гульняў.

### Фестываль феерверкаў

**21 верасня ў Ваўкавыску** адбудзецца ІІ Міжнародны фестываль феерверкаў з удзелам найлепшых піратэхнічных каманд Украіны, Расіі, Літвы і Беларусі. Месца запуску феерверкаў — гарадзішча Шведская Гара, пачатак спаборніцтваў па шатакан каратэ-до і канцэртнай праграмы — а 15-й, выступаў піратэхнічных камандаў — а 21.30.

## КАНЦЭРТЫ

### Hypocrisy

**18 верасня а 19-й у RE : PUBLIC (Прытыцкага, 62)** — канцэрт гурта Hypocrisy (Швецыя), пры ўдзеле Hatesphere (Данія).

### Fortuna acoustic quartet

**18 верасня а 19-й у Вялікай зале філармоніі** пройдуць «Джазавыя вечары» — выступае квартэт Мацея Фартуны з Польшчы «Fortuna acoustic quartet».

### Ethno fantasia

**20 верасня а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы (пр.Незалежнасці, 50)** — прэзентацыя альбома Ірэны Катвіцкай Ethno fantasia. Ірэна Катвіцкая — этнічная спявачка, кампазітар, піяніст, выкладчык, этнамузыколаг, аўтар і лідар ethno-jazz праекта Akana-NHS, аранжыроўшчык і вакалістка інтэрпраекта Kazalpin.

### Amorphis

**20 верасня а 19-й у RE:PUBLIC (Прытыцкага, 62)** выступае гурт Amorphis (Хельсінкі, Фінляндыя).

### The UNB

**27 верасня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — гурт The UNB.

### Без той песні я жыць не магу…

**24 верасня а 19-й у малай зале імя Р.Шырмы** — літаратурна-музычная праграма паводле твораў паэта-песенніка Адама Русака «Без той песні я жыць не магу…». Выканаўца — Зінаіда Феакцістава. У яе выкананні прагучаць і простая, шчырая лірыка, і гераічныя спевы, і яскравыя жарты ды перасмешкі.

## ВЫСТАВЫ

### Праваслаўны свет. Вобраз Хрыста ў іканаграфіі краін Усходняй Еўропы

**Да 5 снежня ў Мастацкім музеі** працуе выстава «Праваслаўны свет. Вобраз Хрыста ў іканаграфіі краін Усходняй Еўропы», прымеркаваная да 1025-годдзя Хрышчэння Русі. У экспазіцыі прадстаўлены каля 100 твораў канца XIV–пачатку XIX стагоддзя са збораў 9 музеяў Расіі, Украіны, Сербіі і Беларусі.

### Гаспарэ Манас: Партрэты буйным планам

**Да 28 верасня ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва** працуе выстава «Гаспарэ Манас: Партрэты буйным планам». Гаспарэ Манас — італьянскі жывапісец, графік і скульптар, чыя творчасць знаходзіцца на мяжы абстракцыі і фігуратыўнага мастацтва.

### Васіль Пяшкун

**Ад 24 верасня да 8 кастрычніка ў сталічнай галерэі «Мастацтва» (пр.Незалежнасці, 12)** працуе выстава мастака Васіля Пешкуна.

### 3 Вілейкі з любоўю

**Да 19 кастрычніка ў мастацкай галерэі твораў Л.Шчамялёва (пр. Ракасоўскага, 49)** працуе выстава твораў беларускіх народных майстроў з фондаў Вілейскага краязнаўчага музея. Упершыню ў Мінску будуць паказаныя распісныя дываны, малюнкі на шкле, распісныя макаткі і іншыя атрыбуты побыту Вілейшчыны першай паловы XX стагоддзя.

### Святло майго горада

**Да 29 верасня ў Мінскай гарадской ратушы** працуе выстава Алеся Шатэрніка «Святло майго горада». На выставе прадстаўлены работы з фондаў мастацкага музея, Саюза мастакоў, з калекцыі аўтара.

### Наваградскі край вачыма Канута Русецкага

**Да 30 верасня ў партрэтнай зале Мірскага замка** адбываецца выстава мастацкіх твораў Канута Русецкага, падрыхтаваная сумесна з Бібліятэкай Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх. На выставе 27 эскізаў і малюнкаў славутага мастака XIX стагоддзя.

### «Тэатральны куфар»

**22—28 верасня** адбудзецца штогадовы Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў «Тэатральны куфар», у рамках якога будзе паказана 28 спектакляў. Асноўная пляцоўка — актавая зала Ліцэя БДУ.



### The Rasmus

**23 верасня а 20-й у Палацы спорту** фінскія рокеры The Rasmus прадстаўляць новы альбом і новае канцэртнае шоу.




Сусветна вядомыя канадскія цыркачы з Cirque du Soleil прэзентуюць праграму Alegria на «Мінск-Арэне». Запланавана сем выступаў — 26 верасня а 20-й, а таксама 27-29 верасня а 16-й і а 20-й.
«Alegria» – цыркавое прадстаўленне ў оперна-барокавым стылі, з яскравымі касцюмамі, арыгінальнай музыкай у жывым выкананні і прадуманымі дэкарацыямі, якія дапаўняюць і ўзмацняюць уражанне ад спектакля.

## ТЭАТРЫ

### 18 верасня

**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Оперы і балета** — «Трышчан і Ізота. Шапеніяна. Балеро»

### 19 верасня

**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»
**Беларускай драматургіі** — «Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»

### 20 верасня

**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Беларускай драматургіі** — «Купала. Кругі раю»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»

### 21 верасня

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Юнага гледача** — «Маленькі лорд Фаўнтлерой»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

### 22 верасня

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Віні-Пух і ўсе, усе, усе…»
**Купалаўскі** — «Вечар»

### 23 верасня

**Оперы і балета** — «Кармэн»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 24 верасня

**Оперы і балета** — «Сільфіда»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»

### 25 верасня

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?..»
**Оперы і балета** — «Князь Ігар»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»

### 26 верасня

**Оперы і балета** — «Папялушка»
**Беларускай драматургіі** — «Раскіданае гняздо»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

### 27 верасня

**Лялек** — «Чайка. Досвед прачытання»
**Оперы і балета** — «Іяланта»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

### 28 верасня

**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»

### 29 верасня

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Вяселле Фігара»
**Оперы і балета** — «Церам-церамок»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Купалаўскі** — «Офіс»

## КІНО

### Дажыць да Фурыі

Рыдзік
Баявік, трылер, фантастыка
**Рэжысёр:** Дэвід Туі
**У ролях:** Він Дызель, Кэці Сакхаф, Карл Урбан, Дэйв Баўтыста, Нолан Джэрард Фанк
ЗША, Велікабрытанія, 119 хв.

Беглы галактычны злачынец і забойца Рычард Рыдзік выпраўляецца на пошукі роднай Фурыі і аказваецца на невядомай планеце, закінуты туды прадстаўнікамі расы некрамонгераў. Паранены, вымушаны змагацца з іншапланетнымі драпежнікамі і невядомымі пачварамі, ён знаходзіць станцыю «паляўнічых за галовамі». Іх міжпланетныя караблі — адзіны шанец Рыдзіка выбрацца, але за яго галаву прызначаная немалая ўзнагарода. Да таго ж па яе прыляцелі адразу дзве каманды… Він Дызель (Рыдзік) выступае ў сваім амплуа: гара цягліцаў і хітрасць дазваляюць яго герою выбрацца з любой сітуацыі. А выжываць яму не ўпершыню: такое адбывалася і ў мінулых частках франшызы. Але гэтым разам гледача шакуюць ледзь не з першых кадраў сапраўдным хорарам ненаселенай небяспечнай планеты, дзе даводзіцца выжываць Рыдзіку. Франшыза трымае марку: у якасны баявік з касмічным сюжэтам дадалі жахаў і напружанасці. Сюжэтныя адсылкі звязваюць фільм з папярэднімі часткамі, хоць атрымаць асалоду ад стужкі можна і без іх абавязковага прагляду.

**Настасся Уласава**



# Лукашэнка атрымаў Антынобелеўскую прэмію

Напярэдадні ўручэння Нобелеўскіх прэмій, ЗША, у Гарвардскім універсітэце, чарговы, 23-і, раз назвалі лаўрэатаў Шнобелеўскай прэміі. Пераможцамі становяцца аўтары самых экстравагантных ідэй і абсурдных навуковых даследаванняў. «За дасягненні, якія прымушаюць спачатку засмяяцца, а пасля — задумацца», — адзначаюць арганізатары.

Сёлета ўпершыню адну з прэмій атрымаў прадстаўнік Беларусі. Ім стаў... кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка. Шнобелеўскай прэміяй міру яго адзначылі за «забарону публічных апладысментаў, а таксама за тое, што беларуская міліцыя арыштавала за апладысменты аднарукага чалавека». Гэтыя падзеі адбыліся падчас «Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі» ў 2011.

У медыцыне ўзнагароду атрымала група японскіх і кітайскіх навукоўцаў. Яны вывучалі ўздзеянне оперы на мышэй , якія перанеслі трансплантацыю сэрца.

Сярод псіхолагаў першымі сталі навукоўцы з Францыі, Галандыі і Польшчы, якія прыйшлі да высновы, што тыя, хто лічыць сябе п'яным, таксама мяркуюць, што набываюць большую прывабнасць.

Афрыканскія гнаявыя жукі знаходзяць дарогу дадому , арыентуючыся па Млечным Шляху, — даказалі біёлагі з Швецыі, Германіі і Аўстраліі. Раней лічылася, што іх галоўны арыенцір — Месяц, аднак аказалася, што жукі не губляюцца і ў бязмесячныя ночы.

У галіне бяспекі і інжынерыі пасмяротна адзначаны амерыканец Гастаноа Піца. Ён вынайшаў і запатэнтаваў сістэму, якая дапамагае злавіць захопнікаў самалётаў. Механізм выкідвае тэрарыста праз спецыяльныя дзверы-пастку, за якой ён упакоўваецца і выкідваецца з парашутам праз люк. Тады ж радыёсігнал паведамляе паліцыі месца, дзе захопнік павінен прызямліцца.

Сёлетняя прэмія па фізіцы належыць групе расійскіх навукоўцаў, якія даказалі, што некаторыя людзі змаглі б бегчы і трымацца на паверхні вады ў сажалцы, калі б гэта адбывалася на Месяцы.

Група хімікаў з Японії тым часам займалася вывучэннем біяхімічных працэсаў, якія прымушаюць людзей плакаць пры нарэзцы цыбулі. Выявілася, што ўсё нашмат сур'ёзней, чым меркавалася раней.

Унёсак у навуку амерыканцаў Браяна Крэндала і Пітэра Стала заключаецца ў эксперыменце з праглынаннем землярыйкі і далейшым даследаваннем лёсу яе парэшткаў. Навукоўцы спрабавалі вызначыць, якія косткі шкілета жывёлы могуць перажыць пераварванне ў страўніку чалавека, а якія — не.

**Навукоўцы вывучаюць, як жукі-гнаявікі знаходзяць дарогу дадому**

У галіне аховы здароўя група тайландскіх медыкаў атрымала ўзнагароду за распрацаваныя імі медыцынскія метады , якія варта выкарыстоўваць пры «запаленні ампутацыі пеніса».

Праславіліся і шатландскія навукоўцы, якія зрабілі два адкрыцці. Па-першае, чым даўжэй карова ляжыць, тым большая верагоднасць, што яна ўстане. Па-другое, калі карова ўстала, вельмі складана прадказаць, наколькі хутка яна зноў ляжа.

Ягор Марціновіч

**Некаторыя пераможцы мінулых гадоў**

**2012, літаратура** — Падліковая палата ЗША «за складанне справаздачы аб справаздачах аб справаздачах, якая рэкамендуе падрыхтоўку справаздачы аб справаздачы аб справаздачах аб справаздачах».

**2011, біялогія** — Аўстралійскія навукоўцы вынайшлі, што самцы аднаго з жукоў нярэдка прымаюць піўную бутэльку за самку.

**2010, інжынерыя** — Брытанцы ўдасканалілі метад збору сопляў кіта з выкарыстаннем верталёта, які кіруецца дыстанцыйна.

**2009, літаратура** — Ірландская паліцыя за выпісванне больш чым 50 дарожных штрафаў нейкаму Права Язды (Prawo Jazdy), што па-польску азначае «правы кіроўцы».

**2008, мір** — Федэральны камітэт па этыцы і біятэхналогіях за адстойванне прынцыпу, згодна з якім расліны маюць пачуццё ўласнай годнасці.



**Ва ўзнагароджанні ўдзельнічаюць сапраўдныя нобелеўскія лаўрэаты, якія не саромеюцца дурэць на сцэне.**




**Пераможцы атрымліваюць сімвалічны медаль, але за ўзнагародай прыязджаюць не ўсе.**

# За дастаўку тэлефона беларусы бяруць $500

**Адрозніць версіі айфонаў толькі па вонкавым выглядзе складана.**



**Эканом-версія —**

Адначасова Apple прэзентавала бюджэтную версію смартфона з пластыкавым рознакаляровым корпусам (зялёным, жоўтым, сінім, чырвоным ці белым) і ўрэзанымі настройкамі. iPhone 5c будзе каштаваць на $100 танней за дарагі аналаг.

Пачынаюцца продажы новай версіі культавага iPhone.

Амерыканская кампанія Apple прэзентавала новую версію свайго смартфона iPhone. Тэлефон атрымае назву «5s». Сярод яго перавагаў над папярэдняй мадэллю называюць палепшаны працэсар (хоць для абсалютнай большасці праграм дастаткова і старога) з новай аперацыйнай сістэмай, новую камеру, якая можа здымаць з хуткасцю 120 кадраў за секунду, і дактылаласкапічны сэнсар. Апарат зможа ідэнтыфікаваць свайго гаспадара па адбітку пальца. З'явіўся і дадатковы магчымы колер корпуса — да класічных чорнага і белага дадаўся залаты.

iPhone 5s будзе каштаваць $649—$849, у залежнасці ад аб'ёму памяці. Ён трапіць у крамы 20 верасня, але толькі ў дзевяці краінах. Беларусі ў спісе няма. У найлепшым выпадку, продажы ў нашай краіне пачнуцца толькі ў снежні.

Аднак фанаты Apple столькі чакаць не хочуць. Яны гатовыя плаціць перакупшчыкам, якія прывязуць новы iPhone з-за мяжы. У інтэрнэце такія прадаўцы прымаюць заяўкі па $1150 за мінімальную мадэль. У выніку нацэнка дасягне $500!

ЯМ



## Сцісла

**Чалавецтва выйшла за межы Сонечнай сістэмы**

Амерыканскі зонд Voyager-1 пасля 36 гадоў з моманту старту з Зямлі перасёк мяжу геліясферы і выйшаў у міжзоркавую прастору. Цяпер касмічны апарат трымае курс да зоркі AC 793888, якую ён дасягне прыкладна праз 40 тысяч гадоў. На яго борце знаходзіцца відэадыск з пасланнем пазаземным цывілізацыям.

**Папа будзе ездзіць на «Рэно» з прабегам 300 тысяч**

Белы «Renault R4» 1970-х гадоў выпуску — гэта новае аўто Папы. Яго падараваў Пантыфіку пробашч адной з парафій з поўначы Італіі, які карыстаўся машынай доўгія гады.

**Беларусь падала заяўку на правядзенне Еўра-2020**

Футбольны чэмпіянат будзе праходзіць па новай схеме — у 13 гарадах па ўсёй Еўропе. Беларусь хоча правесці чатыры матчы спаборніцтваў на стадыёне, які, мяркуецца, будзе пабудаваны на месцы цяперашняга «Трактара».

**Упершыню ў Еўропе транссэксуал нарадзіў дзіця**

Немка, імя якой не называецца, на працягу некалькіх гадоў прымала гармоны, каб змяніць пол на мужчынскі. Цяжарнасць наступіла ў выніку апладнення донарскай спермай. У Амерыцы ўжо вядомы выпадак нараджэння дзіцяці мужчынам. Томас Біці ў 2008 годзе нарадзіў дзяўчынку праз пяць гадоў пасля аперацыі па змене полу.

ЯМ



**Юнакі Гомеля правялі агаленую фотасесію ў абарону драўлянай забудовы горада. «Захавайма драўляную забудову разам!» — напісала аўтарка ідэі, фатограф Марына Драбышэўская. Першым яна зняла дом па вуліцы Валатаўскай. Паводле падання, менавіта тут дажывала свае апошнія дні Ірына Паскевіч. Дом знаходзіцца пад пагрозай разбурэння.**



**У Беларусь прыходзіць восень. На гэтым тыдні ва ўсёй краіне сіноптыкі абяцаюць дажджы. А бабіна лета адкладаецца аж на кастрычнік.**




**«Каталонія — не Іспанія!» Такім быў асноўны лозунг акцыі, падчас якой 1,6 мільёна чалавек сталі жывым ланцугом ад французскай мяжы, праз Барселону, да паўднёвай ускраіны Каталоніі. Каталонцы дабіваюцца незалежнасці ад Іспаніі. Каталонія страціла незалежнасць у сярэднія вякі, але захавала сваю мову і адметнасць. Пры Франка мова амаль знікла з ужытку, але пасля падзення дыктатуры адбылося імклівае адраджэнне.**



## Анекдоты і жарты

Мясніковіч тэлефануе Лукашэнку:

— Што з рублём рабіць?

З другога канца праваду:

— Жэстачайша! Галовы паляцят! Наручнікі адзенут! Ты міня понял!?

— Дзякуй, зразумеў...

У трубцы гудкі.

У гэты ж час у рэзідэнцыі Лукашэнка паказвае Макею на аўтаадказчык, які толькі што размаўляў з Мясніковічам:

— Сматры, Владзімір, как я прыдумал! Ціпер ніхто мне не мешает работаць!

* * *

Супрацоўнік ДАІ спыняе аўто і строга пытаецца ў кіроўцы:

— Вы знак бачылі?

— Так, бачыў.

Даішнік *(перапоўнены гонарам)*:

— Сын маляваў!

* * *

Загарэлася Міністэрства па падатках і зборах. Грамадзяне дапамагалі хто чым мог: дровамі, вугалем, бензінам.

* * *

Ідзе паседжанне, вырашаюць, як выкарыстоўваць зямлю каля Чарнобыля. Бульбу — нельга, буракі — таксама. Устае адзін міністр і прапануе: «А давайце засеем палі тытунем, а на пачку напішам: «Мінздраў у апошні раз папярэджвае!»

### Са старых анекдотаў

Заходні беларус размаўляе з бальшавіком у верасні 1939 года ў Вільні.

— А ў вас ў Расеі ёсць апельсіны?

— Канечне, ёсць, у нас іх робяць на спецыяльных фабрыках.

— А персікі?

— Вядома, і персікавыя фабрыкі ёсць.

— А з чаго вы робіце персікі?

— Найлепшыя атрымліваюцца з авечай воўны.

## «НН» сто гадоў з вамі

«Польская і расійская культура — гэта фікцыя. У Еўропе ад Пірынеяў да Уралу і ад Нарвегіі да Італіі пануе адна адзіная еўрапейская культура. Яе з роўным правам могуць сабе прысвойваць самаеды і палякі, баскі і расейцы, беларусы і французы».

**«НН». №34-36. 1913**

Міністэрства юстыцыі прызнала неправамоцнымі рашэнні з'езду ЛДПБ, на якім кіраўніку партыі Сяргею Гайдукевічу выказалі недавер. Мінюст палічыў, што пасля сыходу прыхільнікаў Гайдукевіча з'езд страціў кворум.

**«НН». №35. 2003**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
наменнікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 17.09.2013.
Замова №3869.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13035